Кузьма Чорны

# Пачуцьці





…нае Выдавецтва Беларусі
Менск — 1926

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ПАЧУЦЬЦІ

АПАВЯДАНЬНІ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926

Над кожным сэрцам плакаў
і сьмяяўся.

*(Прачытанае ў кнігах).*

# ВЕЧАР

## I

Віктар Зеніч самым адвячоркам прышоў дадому з работы і сеў адпачываць—узьлёг на стол і маўчаў.

Зусім ціха канчаўся дзень,—так, як і ўсё робіцца ў восень: менш зьвінючай вясёласьці і больш ціхай радасьці. З вакна відны былі жоўтыя ад лістоў, напалову голыя галіны вішань, а за імі густа-зялёнае неба, з белым колерам угары й ружовае нізка, дзе за некімі чорнымі абрысамі падыходзіла да яго роўнасьць зямлі—была яна відна далёка за пустым пляцам напроці, скрозь рэдкія дрэвы. А па бакох то панура, то весела думалі нешта домікі й хаты.

Плыў з шырыні вецер, радасны й лёгкі, і нёс вольнасьць поля ў горад, а камяніцы, што недзе там трохі далей на гары, заціхалі на ноч, спынялі свае грымучыя гымны. А ў людзях рабілася звычайнае, вялікае й неабдымнае—людзі

жылі, імкнуліся да радасьці, баронячыся ад смутку...

На дварэ плылі, спляталіся зыкі, а ў пакоі было цішэй, яны глуха сюды далятал і лёгка было тут думаць у змроку.

Дом быў вялікі, дзеравяны, было ў ім многа кватэр і многа жыло ў ім людзей. І зьяўляліся самі па сабе думкі, што каб гэтыя старыя сьцены маглі раптам загаварыць, яны-б многа сказалі-б чалавеку аб ім самым—так многа яны бачылі таямніц людзкога жыцьця; тады, пачуўшы аб сабе праўду, чалавек можа хутчэй адкінуў-бы ад сябе ўсё паскудзтва, што ўрасло ў яго з самых цёмных даляй вякоў і, будучы часам нават малым, псуе вялікае хараство чалавека.

Гусьцілася вячэрняя ціш. А можа гэта вячэрнія зыкі здаваліся цішынёю... І ўсё весялей было сядзець і маўчаць, адчуваць, глядзець і слухаць. Ды яшчэ было жаданьне няпрыкметна душой увайсьці ўва ўсе таямніцы, што ў жывых істотах захованы, увайсьці ласкава і ціха, з чыстымі думкамі й адчуваньнямі, і ў гэтым была-б радасьць.

Ціш, ці то гэта зыкі, сталі здавацца нейкай мэлёдыяй.

Віктар Зеніч сядзеў і маўчаў...

— Ведаеш што, жонка, — пачуўся раптам грубы й шырокі голас за сьцяной, у суседняй кватэры.

— А што, — адказала нэрвовым голасам жанчына.

— Каб на яе ўпадкі, каза ў хляве ўгразла, — зноў сказаў мужчына.

— Ну?! — перапалохалася жанчына, — то чаму-ж ты выцягаць ня йдзеш.

Пачуўся грубы рогат і пасьля зноў словы:

— Дурная ты: каза, каб ты й хацела, ніколі ня ўгразьне. Чорт яе нават ня ўтопіць, каб, скажам, прышлося.

— То на што ты мяне палохаеш дарэмна, гад ты печаны!..

І жанчына заплакала. Чутно было, як яна сярдзіта нечым стукнула.

— То чаго ты плачаш?

— Чаго плачаш?! Жыць спакойна не дае, заўсёды перапалохае, дый чаго плачаш!

— То гэта ты гэтага плачаш!

— А чаго! Табе нічога ня трэба, ні казы ні шмазы, раскідака чортава.

І зноў, яшчэ больш горка, заплакала жанчына.

Віктар Зеніч ведае, што гэта ад вясёлага настрою пацьвяліўся з жонкаю сусед, сталяр Арсень Грабіч, і цяпер сам ня рад, бо жончыны

сьлёзы распачаліся надоўга. Амаль ня кожны вечар сталяр так цьвеліцца з жонкаю, пакеплівaючы гэтым над яе бездоннаю крыніцаю сытых сьлёз.

На некалькі хвілін змоўк сталяр, і жонка пачала заціхаць, не пакідаючы толькі гаварыць сама сабе пад нос аб сваёй цяжкай долі. І мусіць гэты трагізм жаночага настрою яшчэ больш падвесяліў сталяра, бо Віктар Зеніч зараз-жа зноў пачуў яго вясёлы голас:

— Жонка, ведаеш што, жоўтая курыца зьнясласся ў чужым хляве.

— А можа!? — зноў перапалохалася жонка, забыўшыся плакаць.

— От, балазе твае сьлёзы ўцерліся,—раптам констатаваў факт сталяр.

— Ах, каб ты ніколі твару не абціраў ручніком,—загаласіла жонка і ўжо з енкам пачала плакаць.

Ухмыльнуўшыся ад думкі аб глыбокай крыўдзе сталяровай жонкі, Віктар Зеніч зноў пачаў слухаць.

— То ведаеш што, жонка,—чуўся голас сталяра,—калі так, то я пайду гляну на белы сьвет, а ты тымчасам паволі выплаквай свае горкія сьлёзы. Па майму вылічэньню, іх у цябе хваціць на дзьве гадзіны, дык ты, што робячы

іх выплач, а я да таго часу вярнуся й займемся мы з табою тады якою іншаю справаю.

— Няхай ты не вярніся,—скрозь сьлёзы адказала жонка, і сталяр весела ляпнуў дзьвярыма.

Зараз-жа яго барадатая й трохі сагнутая постаць паказалася на дварэ. Ён пастаяў на адным месцы, пасьвістаў трохі на раньні асеньні месяц і пашоў за вароты.

Жонка яго плакала. Выціраць яе сьлёзы, так, як і заўсёды, зьявіўся Юзікаў Юзік—хлапчук-падшэрак, засморканы й з пасінеўшым ад холаду носам. За дзень ён апалераваў некалькі разоў увесь горад, зарабіўшы на гэтай справе, рознымі хітрасьцямі й штукамі чатыры капейкі, а гэта шмыгануў скоранька з сваіх цёмных сяней і падбег па мокрай зямлі да сталяровых дзьвярэй.

— Плача, ліха ёй,—рашуча сказаў ён, хітра падмаргнуўшы гнілому слупу, што падпіраў сталярову сьцяну.

І тут-жа, адскочыўшы на сярэдзіну двара, ён задзёр голаў угору й закрычаў, наколькі хапала дзіцячых сіл:

— Тараны смажаныя, па капейцы штука.

І раптам драпануў назад у цёмныя сені і ўжо адтуль, з неабдымнай радасьцю свайго маладога жыцьця, глядзеў на сярэдзіну двара.

Хутка з свае кватэры выбегла сталярыха й, забыўшы свае глыбокія трагізмы, паімчала сваё дзябелае цела ў вароты. На вуліцы было пуста, толькі барабаншчык вайсковага оркестру плішчыў некуды на жываце барабан. З вялікім расчараваньнем аглядзеўшы пустую вуліцу, сталярыха паволі ўжо пашла назад. На момант яна стала проці вакна Віктара Зеніча, каб запытаць у яго:

— Ня чулі? Здаецца смажаныя тараны прадавалі. Хацела купіць — якраз нешта галава баліць.

— Не, ня чуў,—з лёгкай усьмешкай адказаў Віктар Зеніч.

— Што гэта за кавалер, калі ён ня чуў, як смажаныя тараны прадавалі,—тонам мудрай настаўніцы абазвалася сталярыха й, зноў гатовая заплакаць ад глыбокай крыўды, пашла да сваіх дзьвярэй; але заплакаць ёй ужо не ўдалося— перад самымі дзьвярыма спаткалася яна з газэтчыкаваю дачкою, і пачалі яны гаварыць аб тым, якая фальбона харашэй у спадніцы—шырокая ці вузкая...

Зусім ужо лажыўся вечар.

II

Ціха было на зямлі. І можа ад таго й радасна, што было ціха, бо трэба было адпачываць усёю

істотаю. Густы змрок ляжаў у пакоі, і ўжо неба праз вакно здавалася зялёна-цёмным бяздоньнем, а зямля ня так звала ўжо ў свае нязьмерныя абшары. Далёка на ёй ужо зьліліся цёмныя абрысы з небам. Зышоў дзень і рос вечар.

У напружанай цішы раптам пачала расьці вастрата пачуцьцяў і думак. Але думкі былі вельмі ўтомлены цяжкай работай за дзень і не мяшалі яны яшчэ больш вырастаць пачуцьцям. Пачалі праходзіць ува ўсёй істоце пражытыя дні. Зьяўляўся ў вушшу гром гораду й гаворкі людзей, то раптам тонкасьцю выбухалі недзе з сэрца адносіны з людзьмі, а то ўсё калі-небудзь чуванае, бачанае, пражытае на момант зьнікала й пасьля зноў раптам зьяўлялася, як усё разам адно цэлае, скомбінаванае ў нешта гармонічнае й як-бы вельмі патрэбнае для чалавека. І ўяўлялася, што гэта ўвесь сьвет відзён перад чалавекам, што адчуваньне яго як-бы сваволіць у душы, бо ня гэтак трэба; а можа яно й іначай трэба і каб стала іначай, то таксама не парушыла-б гармоніі душы, бо ў той дзень, так здарылася, што не выплывала наверх у Віктара Зеніча мяжа радасьці й смутку, а была ўвесь дзень цяжкая работа, што забрала пад сваю ўладу ўсе думкі, і цяпер быў адпачынак.

От так, сядзець і адчуваць.

Многа бачылася сьвету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа зямлі й мала за жыцьцё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. А чалавек—гэта-ж сьвет, адна істота—неабходны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш.

Бо быў дзень спакойны, дык такі вечар...

І раптам за сьцяной, ужо за другою, ня там, дзе плакала сталярова жонка, упала ўсё, і зьявілася бяздоньне. Нешта пачало гаварыць аб нечым усяму сьвету і на першых хвілінах не ўявілася, аб чым гэта яно гаворыць. Яно раптам раскідала ўжо цьвёрда-сформаваны парадак настрояў, і пачало іх зьбіраць нанава, ачышчаючы новыя глыбіні і ўзьнімаючы новыя жаданьні й імкненьні.

Мільганула на момант думка, што гэта за сьцяной грае сястра Болеслава Гельца, што кожны дзень з тоненькім портфэлем ходзіць некуды служыць. Завуць яе Антаніна; яна высокая, з белым тварам, заўсёды маўклівая й адзінокая. Жывуць яны ўтраіх—брат, яна й старая матка; жывуць з гэтага дому, дзе жыве ён—Віктар Зеніч, ды яшчэ з таго, што брат недзе служыць. Некалькі разоў на дзень, і вельмі доўга, кожны вечар Антаніна грае на піаніно нешта, чаму Віктар Зеніч назвы ня ведае й

многа не разумее, але ёсьць часткі, асобныя, гэтай музыкі, якія як-бы тое самае, што ў жыцьці адчувалася й будзе адчувацца.

Яна вечна сумная, гэтая дзяўчына, увашла ў сябе і ўжо, далёкая ад людзей, жыве толькі, мусіць, аднымі гэтымі зыкамі.

Віктар Зеніч ведае з гаворак, што некалі гэтыя людзі жылі думкамі, цяпер засталіся ў іх, і вельмі-ж у гэтай дзяўчыны, адны пачуцьці; такія, якія здольны лавіць у жыцьці толькі журбу ды смутак. І, апрача гэтага, у іх застаўся ад мінулых часоў, з вялікага багацьця, вось адзін толькі гэты дом, а ў яе піаніно—асалода цёмных для яе дзён...

Музыка сьціхла, а пасьля зноў зьявілася. Яна выявіла скаргу чалавека, які заставіў гэтыя зыкі бегчы ў сьвет. Скаргу на тое, што ня бачыць ён у сьвеце таго, чаго бачаць у той-жа час другія, і што мінулае не варочаецца. Жыць-жа гэтым мінулым, калі яно толькі мінулае—цяжка. Зыкі перашлі пасьля ў глыбокую журбу. Яна адчувалася, што глыбокая, але ня была зусім ясна зразумелаю.

Зыкі не парушалі цішы—былі яны, была й яна.

Віктар Зеніч сядзеў усё нярухома. Ужо ня было адпачынку, а ўзьнімалася вялікая работа істоты.

Думкі нарыхтаваліся нешта выкінуць наверх, што самі захавалі недзе ў глыбіні, ды яшчэ ўсё нечага чакалі.

І гэта, мусіць, запатрабавалі настроі адзінокай дзяўчыны, бо раптам музыка перашла ў ціхі плач, на момант як-бы заціхла, а пасьля выбухнула вялікім ліўнем—мусіць ня мог саўладаць з драмаўшымі дагэтуль зыкамі чалавек.

І тады ўжо думкі ў чалавека, што ціха сядзеў у цёмным пакоі за сталом, вызвалі сьмерць брата ад сухот. Ляжаў ён у больніцы й вельмі-ж баяўся ўміраць, а як падышла гэтая хвіліна, нікім і ніколі нявыказаная, было ў яго вачох, побач з нейкаю ціхаю просьбаю, і нешта такое, што хлынула раптам у тых зыках, некі вялікі бунт, можа проці таго, што радзіўся ён некалі на сьвет.

Віктар Зеніч мацней прыціснуўся да стала й стаў глыбей думаць.

Слаліся зыкі й ляжаў вечар. Непакойна ўяўлялася зямля й людзі. Зямля—для людзей вялікая, ды ад людзей цесная. А людзі, ня могучы цаніць ні цеснаты ні шырыні, робяць жыцьцё сваё цесным. Вось адчувала нядаўна вялікія трагізмы сталярова жонка за сьцяною і глыбокадумна і ўпэўнена лічыла, што жыцьцё для яе пакута, а бачыла ўсяго на адзін крок перад сабою. Вось

дзяўчына за другою сьцяною можа й ніяк ня лічыць і лічыць нічым ня хоча свайго, ці наогул, жыцьця, ды само неяк адчуваецца яно—цёмнаю пустатою ляжыць яно перад ёю. А вось сам сталяр, вечна вясёлы й жартаўлівы, недзе ў майстэрні робіць ён днём, пад вечар прыходзіць дадому. Ад скэптычных адносін да жончыных трагізмаў заўсёды нявіннымі, падзіцячаму простымі жартамі цьвяліцца з ёю, а пасьля вясёлы йдзе на цэлы вечар у клюб. Выступае з прамовамі, з вострымі словамі... А вось збоку стаіць Юзікаў Юзік, маленькі хлапчына, што ўжо пачаў праходзіць з вялікае ахвоты, употай ад бацькі, жыцьцёвую школу. І ён вясёлы.

А пасьля зноў стаў у ваччу брат з неабдымным імкненьнем жыць.

І раптам прапалі думкі, бо зыкі ўжо выявілі надзвычайную сілу. Яны нешта новае, ніколі нябачанае вызвалі ў пачуцьцях. Як-бы паднялася нейкая ясната, і там загаварыла нязьлічанасьць маленькіх капель вады, яны зьліліся ў надзвычайна дробныя пералівы і ўсё расказвалі аб нечым сьвету, а іх вялікую гаворку гулка і часта пакрывалі густыя зыкі вялікіх хваляў вады. Хвалі набягалі адна за аднэй й сьцьвярджалі глыбіню, што была ў галасох. Бо гэта было мора шырыні, глыбіні і тонкасьці над зямлёй.

Тады ўжо не пачуў Віктар Зеніч, як сьціхла музыка. Яна абарвалася зразу, раптоўна скончыліся зыкі, перашлі ў цішыню і ўжо больш ня ўзьнімаліся; мусіць, або надзвычайна здаволілі яны за сьцяной дзяўчыну, або з такой самай сілай вызвалі нездавальненьне. І тое, ці другое, але было вялікае.

III

На вуліцы пачулася вясёлая песьня. Яна вывела Віктара Зеніча з задумёнасьці. Ён ціха падняўся і праз вакно глянуў у ясны змрок вуліцы. Нічога там ня было відно. Ціха стаялі будынкі, платы і дрэвы, і зусім ужо губіў сваю ружовасьць захад.

Сьвяціліся ўжо вокны чалавечых прытулаў і самае бліжэйшае вакно напроці ў кватэры шаўца Адрыана Раманчука застаўлена было збанкамі, бутэлькамі, завалена капыламі, шчоткамі й яшчэ нечым іншым, што вельмі тонкімі абрысамі вызначалася на асьвечаных шыбах. І здавалася, што гэта шавец Адрыан жыве сягоньня ў сваёй кватэры да часу і загэтым накідаў так усяго на вакно. Але як і запамятае Віктар Зеніч, заўсёды так у яго на гэтым вакне. А калі часам даводзіцца быць па справе ў яго кватэры, дык і там усё гэтак. І мусіць у душы яго так: усё, што пападае туды з шыры-

ні сьвету, кладзецца абы як, як-бы да часу, а пасьля няпрыметна зьнікае...

Ляскаталі недзе калёсы на вуліцы, за парканам, ды моцна брахалі сабакі... Раптам вясёлая песьня загучэла мацней, і вышла на адкрытае месца колёна людзей. Ішлі комсамольцы з нязжытай вясёласьцю жыцьцяздольнасьці. А пасьля, як за вуглом суседняй вуліцы нячутна стала іхняя песьня, абазваўся гул бубённы, і пад гэты гул, з важнасьцю, прамаршыравалі два атрады піонэраў. А ззаду за імі беглі яшчэ „штацкія“ хлапчукі пад кіраўніцтвам Юзіка Юзікавага—гэтыя яшчэ чакалі больш сталага ўзросту, каб маршыраваць у ногу пад бубённы гул.

Юзік з сваім „штацкім“ атрадам правёў сапраўдны атрад да суседняе вуліцы і скамандаваў назад. „Штацкі“ атрад нястройна, але весела павярнуўся й пашоў назад, а Юзік, ня маючы сапраўднага бубна, ішоў паперадзе ды бубніў ў бубен „штацкі“—трымаў леваю рукою аблубіцу з старога рэшата і з усіх сіл лупіў па ёй меднаю качалкай з мажджыру, якую ціхом сьцягнуў ад мацеры.

Насустрэч яму папалася рота вайсковых, яны паволі йшлі, і запявала, радасны ад сваёй песьні, запяваў:

Пашла Манька, эх, ды ў лес,
А ёй жук пад хустку ўлез...

І здаровыя галасы, гульлівыя ад жартаўлівае песьні, якую заўсёды сьпявалі ў час вясёлага настрою, калі спацыравалі па канцавых вуліцах гораду, хваталі прыпеў:

Эх, Манюша, гых, Манюша
разгулялася—
цэлы дзень бесьперастану
цалавалася!...

Словы мала разьбіраліся ў звычных галасох, але мотыў яе й выконваньне гаварылі аб сіле, якую неабходна трэба было выліць у песьні.

„Штацкі“ атрад Юзіка рассыпаўся, а пасьля, як вайсковыя схаваліся за вуглом, ён зноў яго сабраў, падаў некую каманду, і атрад рушыў.

Пасьла Манька, а яй лес,
А ей зук панцоху ўлез...

зацягнуў Юзік, з вялікай важнасьцю агледаючыся па бакох.

І атрад яго грануў прыпеў.

А самы задні, што бяз шапкі, якую прамяняў на яблыкі, ведаючы, што на зіму бацька маецца другую купіць, нёс вольную цяпер аблубіцу ды ўсё ўпэўніваў усякага, хто пападаўся на дарозе:

— От, братка, наярваем!

А той „братка“, часамі сівы дзед, адыходзіў у бок ды з любасьцю глядзеў на дзяцей.

Хутка й Юзік згінуў з сваім атрадам, і на зялёна-цёмнай плошчы нікога не засталося, бо месца гэтае падыходзіла да канца гораду... Пуста было, і толькі там, дзе плошча пераходзіла паступова ў бульвар, зьбіраліся вайсковыя музыканты. Іх постаці варушыліся на палінялым фоне лёгкага змроку і ясна відна была знаёмая Віктару Зенічу высокая постаць капэльмайстра.

І ўяўлялася зямля і людзі на ёй. І ўсё хацелася пайсьці па зямлі, ахваціць яе сабою й сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты й сам можа не адчуваў...

А нашто гэта?

То гэта ты думкі можаш растлумачыць, а пачуцьці хіба заўсёды можаш?..

Тады вышаў Віктар Зеніч на вячэрнюю вуліцу.

## IV

— Справа вось у чым—чуўся недзе недалёка задуменны голас,—аб цьвік чуць вуха не разарваў.

— Як-жа ты?—пытаў другі, як-бы трохі з некім расчараваньнем, голас.

— У плоце, значыцца, цьвік, а я каля самага плоту йду.

— То чаго ты лезеш на плот?

— А чорт-жа яго ўсё ўгледзіць.

„Прашлі людзі“, падумаў Віктар Зеніч і пашоў далей.

Ясна сьвяціўся ў канцы вуліцы клюб. Клаліся на зямлю палосы сьвету з вялікіх вакон, чуліся адтуль галасы гаворак: нехта сьмяяўся, нехта нешта гаварыў, адзін усім. Зьвінелі нядобра ўстаўленым шклом дзьверы; Віктар Зеніч ведаў гэты іх дакучлівы звон і зачыніў іх за сабою паволі.

У сярэдзіне весела сьвяціла электрычнасьць; за вялікім сталом, узьлёгшы адзін на аднаго, нешта разглядалі, чутно было, як шуміць папера газэты ці можа вялікай кнігі. Каля процілеглай сьцяны сядзелі пагрузчыкі вагонаў, стараватыя мужчыны у сваіх доўгіх бразэнтавых сарочках да кален, не пераадзяючыся прышлі яны сюды. А пры дзьвярах нехта з вялікімі валасамі і ў чорным фрэнчы іграў на раялі вельмі-ж вясёлы мотыў, і здавалася, што гэта ад гэтых зыкаў і лёгкі змрок дрыжыць, што прытаіўся каля дзьвярэй, дзе менш было сьвету. Пасярэдзіне-ж у сваім кароткім кажушку

стаяў сталяр Арсень Грабіч, трымаючыся ў бокі, і ўсё рваўся, каб выбіць нагамі некі танец.

— Няможна тут гэтым займацца, тут табе ня піўная,—чуўся голас.

— Братка,—угаварваў яго сталяр з вясёлым сьмехам,—ты адно паглядзі, што за танец, для цябе-ж гэта я й скакаць сабраўся.

У яго ня было жаданьня скакаць, але яму хацелася спрачацца, і ён рашуча адставіў нагу, як-бы пачынаючы танец.

— Слухай, пакінь!

— То калі гэтак, дык скажы музыканту, каб ня граў гэтага нумару, а то я ўстаяць не магу. Няхай, калі гэтак, грае разлуку жыцьця, тады я скакаць ня буду, а то ён барабаніць каб трохі, дык лявоніху, а гэты скакаць забараняе, хоча, каб жывы чалавек на месцы ўстаяў. Ды ты тут няжывога паднімеш, ні то што!.. Пара-а-адкі...

Сталяр весела адышоў да пагрузчыкаў і сеў. А ў клюб ішлі ўсё больш людзі. Хутка ўжо каля раялю сабралася грамада новых людзей, і хор пачаў некую рэпэтыцыю. Той валасаты чалавек, што граў, цяпер стаяў, застыўшы перад сваімі, і ўсе змоўклі, як-бы чакаючы чаго важнага. Валасаты чалавек раптам чуць шавяльнуў рукою.

За Дуна-а-аем...

пачалі гаварыць галасы.

Там жыве мая матачка...

далей сказалі і, як усякія зыкі, жылі й варушылі пачуцьці й думкі.

Ішлі цераз клюб з суседняга пакою з некага сходу людзі ды прыпыняліся слухаць. І ўва ўсіх іх было, можа й несьвядомае, адчуваньне, што на сьвеце многа вялікага, вельмі патрэбнага, часамі нявыяўленага, а як чуеш яго ці бачыш—адчуваеш вялікасьць і харавство жыцьця, глыбіню яго, што і ў радасьці і ў пакутах.

— Хадзем, сусед,—тузануў за руку Віктара Зеніча сталяр,—вельмі-ж я сягоньня натузаўся за дзень у майстэрні, дык спаць пара йсьці, можа жонка ўжо сьлёзы выплакала, калі больш там якіх прычын не знашлося.

Віктар Зеніч вышаў з сталяром, пакінуўшы з сабой напружаны настрой публікі ў клюбе.

— То чаго гэта ваша жонка кожны дзень плача,—запытаў ён у сталяра, адчуваючы да яго нешта блізкае.

Хацелася ляпнуць яму па плячы ды загаварыць аб чым-небудзь блізкім, вядомым ім абодвым.

— Чаго плача? А чаму-б ёй не паплакаць, калі ёй гэтак хочацца. От плача, ну й няхай

плача сабе паволі. Ёй у гэтых сьлязах асалода, дык от і добра, што хоць ёсьць ёй чым пацешыцца... Вунь там, за вашай сьцяной, таксама дзяўчына плача, дык у тае асалоды ў гэтым няма, а пакута. Вось яе шкода.

Вось жыцьцё—ужо спакойна плылі думкі—плыве й шуміць па зямлі. Чуцён і гідзен на вуліцы і ўсюды сталяр, з сваёю вечнай вясёласьцю. І ўсё здаецца ружовым, слаўным, а за сьцяною, у нары, тое самае—цёмным.

І хацелася выявіць перад усім тым, што ёсьць, што вось адчуваецца яно, гэтае жыцьцё, адно ўмірае, другое расьце, а зямля, што трымае ўсё на сябе, імчыцца пад сонцам...

Зноў было ціха й змрочна ў пакоі, зноў чуць відна была вуліца, а за ёю шырокі пляц з цёмнымі ўжо абрысамі дрэў. Ужо ня грала музыка, і рэдкія зыкі дзерава недзе за вакном не парушалі цішы. Ужо плыла ноч, ахватвала зямлю чарнатою, звала ў сябе яе. Застылі ў нярухомасьці дрэвы напроці вакна, і здавалася, што там вельмі-ж прытульна і добра. Ужо чуліся здалёк з электрычнае станцыі шырокія зыкі паравіка ды яшчэ некі стук, дробны й тупы, імчаўся аднекуль. Але не парушалі гэтыя зыкі цішы і не мяшалі думкам. А яны плылі ўсё і плылі. Плылі, як шырокая рэчка ў ціхія

дні, бо быў дзень тады бяз буры ў душы. Плысьці яны будуць так аж да самай гэтай буры, пакуль не давядзецца ім зрабіцца вострымі...

І толькі як пачаў узьнімацца вецер, парушыў ён цішыню. Плыў ён недзе з далёкіх, неасяжных даляй зямлі і веяў дзікаю воляй. Пачынаў блытацца за вугламі камяніц. Пры цьмяным сьвеце ліхтароў відно было, як музыканты на бульвары пачалі настаўляць каўняры. І мажа гэта ад таго, што ўсё пачало варушыцца, зноў захацелася Віктару Зенічу йсьці на вуліцу ці куды-небудзь іначай, абы йсьці. Цягнула да музыкантаў, туды, дзе пабольш людзей і зыкаў.

І зусім ужо прашоў ціхі настрой. Была ўжо вясёласьць ад можа й несьвядомага пачуцьця, што вось ты сярод людзей, а вакол цябе імчыцца жыцьцё. Што многа будзе чаго бачыцца й чуцца на зямлі, многа будзе дзён пражыта й гэтакіх вечароў, многа будзе зроблена нечага вялікага, што заўсёды, да канца жыцьця, стаіць перад табою й ніколі ня зробіцца так, каб быў яму ўжо абсолютны канец...

Вецер плыве і музыка грае. Яскрава гараць агні над горадам. Плывуць з ветрам з поля ціхія песьні, ходзяць над зямлёю хмары, і імкнецца жыцьцё на зямлі. Гавораць людзі, носяць ра-

дасьць і смутак, сьмяюцца і плачуць. Б'ецца з пустаты глыбіня, з-пад смутку радасьць.

Жыцьцё ты маё шырокае, без краёў, глыбіня мая бяздонная!..

Віктар Зеніч узьдзеў пальто, наставіў каўнер і вышаў на вуліцу. Ліхтары слаба разганялі зм'рок, нёс вецер аднекуль лісты і шумеў і шумеў. Нехта йшоў па тротуары, ківаючыся ўбакі—можа з піўной хто да дому дабіраўся. У кватэры Болеслава Гельца было цёмна і ціха. Мусіць пашла некуды Антаніна або сядзіць адна, лёгшы галавою на сваё піаніно. Вокны сталяра сьвяціліся. Чуцён быў ужо бесклапотны рогат сытай сталярыхі, адкінуўшай на ноч усе свае трагізмы. Недзе плакалі дзеці, на бульвары нехта сьмяяўся, ішоў з лапатаю з магілак сторож і даў добры вечар Віктару Зенічу. А пасьля некуды паімчаўся аўтомобіль, і зноў чуваць сталі радасныя песьні з клюбу. І колькі было тут і пустаты, і глыбіні на гэтым маленькім кавалку зямлі!

Віктар Зеніч паволі пашоў у бок бульвару. Там пад высокім ліхтаром стаяў высокі капэльмайстар і ўсё махаў рукамі, забыўшы ўсё, апрача зыкаў. А зыкі вялікія разьбягаліся па сьвеце.

Віктар Зеніч зашоў далёка ў забульварныя вуліцы, там ужо чутны былі крыкі паравікоў, шум нейкіх машын, што мяшаўся з праразьлівым ужо сьвістам асеньняга ветру. Гэтая шырокая сымфонія гучэла то моцна, то зусім ціха.

І як ападала яна нізка, мацней беглі ў сьвет вялікія зыкі. І гаварылі яны аб вялікасьці, аб радасьці й смутку, аб бязьмернай глыбіні жыцьця.

---

# БУЛАНЫ

## I

Зямля, зямля! Прасторы ў вятрох—чорныя, з вясёлым зяленівам расьцьвету...

Бярозы і хвоі ў вольную восень... Думаюць думу дарогі, гоняць ваду ціхія рэчкі... І ў цішыні—буры, і ў бурах—цішыня...

Хмурна думаць пачало неба, і тады-ж зямля весялілася ветрам. Пад дзень пабялела зямля, а днём заснуў пад хвоямі вецер, і заплакала восень сьнегавымі сьлязамі. Падала вострая музыка капель і, як сплыў сьнег,—заглядзелася мокрая зямля ў тонкае неба, і ў саду усьміхнуліся апошнія лісты голае ліпы.

Так і было мокра цэлы дзень, ды сумна-весела ад ясна-туманнага неба.

І тады раптам павеяла з поля вялікаю воляй—неабдымнаю і нявызначанаю, як пачуцьцё: можа гэта пахла поплавам ці гаварылі хвоі за полем, ці-то гэта сьляды соннага ветру,—толькі пацягнула тады Буланага з хлява ў паплавы. Ён аж памахаў аблезлым хвастом ды пацёрся

сьвярбячаю сьпінаю аб сьцяну. Пасьля абнюхаў „качалкі“ няперажованага старымі зубамі сена, утоптаную салому пад нагамі, ды сьцяну, што аддавала сухім гноем ды трухлінай. Тады ўставіў у вакенца бяздонна-чыстыя, як крыніца, вочы і ўбачыў: салома мокрай страхі, над ёю галіна з воронай і вясёлае неба. Усё гэта было як-бы некім фонам, цьмяна адчуваемым глыбінёю істоты, незразумелым ні ў цэлым, ні сваімі асобнымі часьцінамі.

Буланы падступіў да дзьвярэй, пашараваўся аб іх старыя дошкі губамі і пасьля ткнуўся ў іх. Дзьверы трохі прачыніліся, так што можна было высунуць на двор галаву. Буланы так і зрабіў. А тут раптам запахла вялым аерам, і няможна ўжо было ня выйсьці на двор. Але Буланы яшчэ пастаяў трохі, бо павольнасьць давала асалоду старому целу; і з вуліцы сьмешна відна была яго галава, так што Янка Самахвал, які вельмі добра ведаў Буланага і якога Буланы таксама ведаў і заўсёды здалёк пазнаваў па некаму канапляна-тутунёваму паху,—прыпыніўся на вуліцы і сам сабе глыбокадумна сказаў:

— От, чорт яго ведае, чаму гэта Раман Драгун каня гэтага ня збудзе. Падла ледзьве ногі цягае, а ён яго дзяржыць.

— Што ты кажаш,—абазваўся з свайго двара Юзік—сусед.

— Раман, кажу, каня не прадае.

— Ня хоча за бесцань аддаваць,—заявіў Юзік і палажыў бараду на плот.

На гэтым гаворка магла-б і скончыцца, бо ні аднаму ні другому ня было часу, але Буланы раптам вылез з хлява і, растапырыўшы ногі, паволі пачаў абнюхваць мокрую зямлю, зацярушаную саломай і сенам. Тады ўжо Янка Самахвал, як належыць, стаў напроціў двара і пачаў глядзець на Буланага.

— Эх, конь, быў конь. Што гэта быў за коо-о-нь—а-я-яй!—сказаў ён і трагічна паківаў галавой.

Юзік Жур падышоў да Янкі і сказаў:

— Гэта-ж я яму памог гэтага каня купіць.

— Я-ж ведаю.

— Я не кажу, што ня ведаеш. Дзіва што ты ведаеш—гэта ўсякі ведае... Тады, дык Раман усё шкадаваў, што пераплаціў, а пасьля што ён мне пападзякаваў—страх. Бывала які воз ні налажы, гара не гара—ідзе Буланы, а гэта зусім на няма нічога зьехаў.

Так і гаварылі аб Буланым. І ад таго, што гаварылі і стаялі на вуліцы, брала цікавасьць

таго, хто не гаварыў і не стаяў на вуліцы, а толькі бачыў усё гэта праз вакно. Так вышаў на вуліцу Костусь-муляр, які ніколі ня меў сваіх коняй і ня цікавіўся імі, але мог гаварыць аб іх колькі хочаш. І ў зьвязку з тым, што раптам вышаў на вуліцу Костусь, у сьпешным парадку зьявіліся і іншыя, бо была ў іх цікавасьць да ўсяго таго, што-б дзе ні рабілася і ні гаварылася.

І гаворачы аб Буланым і трохі думаючы аб ім, думалі і аб многім іншым: гледзячы на вылезшую шыю Буланага, Янка Самахвал быў падумаў: „Галава ў мяне вельмі-ж сьвярбіць, трэба будзе пайсьці ў суботу ў лазню“.

І ў зьвязку з лазьняю і суботаю падумаў аб тым, што гэта-ж пасьля суботы будзе нядзеля, а тады пойдзе ён аглядаць новую малатарню, якую прывязьлі за 40 вёрст з саўхозу і паставілі ў Юрасёвым гумне. І ні то, што ў гэтым самае важнае, але ўсё разам узятае—і лазьня, і субота, і малатарня, і гаворкі, якія пры гэтым будуць вясьціся,—нешта блізкае і патрэбнае. Юзік-жа, гледзячы здалёк Буланаму на галаву між вушэй, падумаў: „Чаму гэта ў яго нек зеленавата там? Ці гэта ён у некую цьвіль упэцкаўся, ці гэта шэрсьць ад старасьці ў яго такая стала“.

І тады ўжо зьявілася ў яго вось якое адчуваньне: „Гэта-ж якраз такі бывае мох на старых бярозах. І нават тая бяроза, ускочваючы якую на воз год дзесяць таму назад, я сарваў жывот,—уся была абросшая гэтакім самым мохам“.

І пасьля гэтага пашлі гуляць думкі вольнымі пуцінамі. Падумалася аб тым, як сумаваў ён доўгі час па сваім жываце. Пасьля гэтае адчуваньне растала ў наступным: падобны колер яшчэ бывае ў раньнюю восень пад рабінаю, напроці рэчкі. Сядзіш бывала там, а вада бяжыць ды бяжыць.

— Колькі гэта я гэтага Буланага перапасьвіў,—сказаў раптам Юзік пад густым наплывам думак.

— Усяму свая пара,—адказаў голас...

А Раман Драгун, стоячы ў хаце каля стала і гледзячы на вакно, падумаў: „Чаго гэта людзі напроці майго двара сабраліся? Ці не зрабілася гэта што ў мяне ў двары?“

Трохі нават як-бы спалохаўся чаго і закурыў зразу, а пасьля бачачы, што тыя як стаялі, так і стаяць, сам вышаў на вуліцу і разам з усімі моўчкі глядзеў на Буланага.

А Буланы ўсё нюхаў зямлю, а пасьля пацягнуўся паволі ў сад. А там пад разгатаю гру-

шаю ляжаў пажоўклы і мокры аер, дзён пяць таму накошаны Раманам Драгуном каля рэчкі; пахнуў ён моцна, быў вакол расьцярушаны, нават трохі быў ускладзен на дзьве тоўстыя галіны грушы. Вакол ён быў гэты аер. Уваходзіў ён Буланаму ў адчуваньні і выглядам і пахам, і ў ім губілася неяк трава, зьбітая і малая, што разам з чорнымі лісьцямі макрэла пад яблынамі. Буланы папрабаваў жаваць аер,— нясмачны, так што ня варта было яго й нюхаць. Але сваім пахам і выглядам у многа раз павялічыў ён Буланаму адчуваньне вольнага прастору рэчак, паплавоў ды вільготнага ветру. І раптам разьдзьмуў ноздры Буланы, так, як разьдзьмуваў іх у маладыя гады. Яшчэ махнуў хвастом, папрабаваў страсянуць грываю, але грывы ўжо амаль ня было, і вышла гэта неяк сьмешна: проста пацеляпаў неяк шыяю і пабег паволі дваром на вуліцу.

— Ку... куд-ды, а-а-а!—растапырыў быў рукі Юзік, а Раман Драгун, уцяміўшы раптам становішча рэчаў, сказаў:

— Надвор'е прачысьцілася, то няхай, от, пацягаецца па паплавох, хоць абветрае трохі.

— А што ты думаеш,—адказалі яму.

На гэтым уся іх гаворка і скончылася. Яны разышліся, нясучы кожны ў сабе думкі, ужо

ня блізкія да Буланага. А Буланы прабег па вуліцы да трэцяе хаты, ды раптам адчуў, што баляць ногі. Тады ўжо паволі пашоў, не пакідаючы раздуваць ноздры,—ці то гэта ад адчуваньня блізасьці поплаву, ці ад стомленасьці.

Так выбег ён за агароды і стаў грызьці дробную траву, і затым, што быў ён конь і ня было ў яго таго, што выразна завуць думкамі, амаль згладзілася ў яго тое ўсё, што было кагадзе, як-бы гэта ня было для яго мінуўшчыны, ня было яе выразна ў адчуваньнях. Яна была ў жыцьці і выяўлялася, напрыклад, у тым, што вось ад старасьці, ад быўшае працы і жыцьцёвай нягоды, ногі сталі часта балець і вочы закарваць гноем, але гэта ня была сьвядомасьць, якое ня было, а быў далёкі да разуменьня і ўяўленьня факт...

Ужо ня плакаў дзень сьнегавою вадою, бо зьнік ужо сьнег, толькі стаялі ціха ў ручаінах гэтыя сьлёзы—як-бы гэта дзень выплакаўся, і стала зусім яму лёгка. Змыў ён сьлязьмі каламутнасьць, што няпрошанаю прышла да яго, разагнаў волава хмар і пачаў сьмяяцца—ясна і ціха.

А тут яшчэ гусі, прагергетаўшы ўсю сваю сталасьць на агародах, падняліся ды белымі камякамі шуганулі цераз платы ў поле. Цяжка

было ім плаваць у высотах, бо былі яны сытыя й сталыя, як тыя сьцены, у якіх начавалі; так яны й пападалі на зямлю і пачалі там шукаць нечага.

Буланы грыз траву, а яны нечага шукалі, і была ў іх сталая вясёласьць, зусім не такая, як у Буланага. У яго проста было некае цьмянае жаданьне. То цягнула яго некуды йсьці, падняўшы галаву, то страшна хацелася, ліха ведае адкуль, набраць повен рот травы, ды ў смак пажаваць яе. Проста гэта было тое самае, што застаўляла яго ў маладыя гады ляцець, задраўшы хвост, па загонах. Аж стогне зямля, аж енчыць дарога пад капытамі. Толькі пыл слупамі ходзіць там, дзе скача бывала Буланы. Як ужо яго ні путаў Раман Драгун—ніводнае пута ня трымала яго: парве, ды калі залапоча...

І якое дзіва, што цяпер Самахвал Янка, убачыўшы Буланага, заўсёды трасе галавою ды выводзіць павольным голасам чуць не на дванаццаць тэмпаў:

— Што гэта быў за ко-о-о-онь—а-яй!..

От не папытаў тады Янка Самахвал у маладога Буланага: „Куды ты так імчышся, задраўшы хвост?“ І ня меў Буланы чалавечага розуму ды языка, каб адказаць яму на гэта...

Гусі сабе вялі гаворку, а Буланы падняў галаву ды пашоў паволі вузкаю дарогай, туды, дзе чарнелі кусты.

II

Было гэта даўно ў чалавека, і больш яно ўжо ніколі не зьяўлялася; пачало забывацца, і нават сьляды яго сплывалі ўжо па хвалях часу. А тады было яно моцнае, было яно вялікае, як усё тое, што ёсьць у чалавека разам узятае ў пачуцьцях і думках. Бо праз яго тады праходзіла і пераламлялася ў ім адчуваньне і ўяўленьне ўсяго таго, што існуе.

Быў Раман Драгун малодшы і мацнейшы, і думкі меў вастрэйшыя, але яны сталі слабымі...

Ціха было ў тыя дні ў хаце і на дварэ. І ён усё стараўся што-небудзь рабіць, чым-небудзь займацца па-за хатаю, каб ня бачыць таго, што было ў хаце. Ляжала там яго хзорая жонка і пакутавала. І гэта напаўняла ўсё, выходзіла за адчуваемыя абшары і было ўва ўсім. Так гэта ён адчуваў. Была гэта ненормальнасьць, быў хаос, і чалавек, заўсёды праціўны яму, шукаў гармоніі. Выяўлялася гэта ў яго ў імкненьні бачыць вакол сябе ўсё нормальнае, у сваіх берагох. Хоць-бы ўявіць як, што гэта ўсё так і ёсьць. Хадзіў ён па дварэ, па ўтоптанаму сьнегу, і былі ў яго дзьве вышыні настрояў. То хаце-

лася яму як-бы сьціснуцца ў адзін маленькі жмут, быць няпрыметным, і каб такім стала ўсё. Бо гэта была-б процілеглясьць таму ненормальнаму страшнаму і вялікаму.

Змрокам дзён ён з вялікім здавальненьнем заносіў Буланаму сена і стаяў там падоўгу, прыпёршыся плячом да сьцяны.

Буланы быў яшчэ зграбны і ў самай сіле. Жаваў ён сена ў цёмным хляве спакойна, бяз тых бур, якімі кіпеў чалавек, а чалавек стаяў каля яго і ашукваў сябе: „Дык гэта-ж усё так, як трэба—Буланы жуе сена, стоячы на чорнай ад змроку саломе; тут-жа прытульна і цёпла. І я стаю і гляджу ў ціхую адзіноту зімовага вечару“.

Так находзіла на чалавека супакаеньне. Пасьля думкі вызывалі тое, што ёсьць, і ўяўлялася як-бы магчымасьць чалавека, цішынёю пазбавіцца. Тады ўзьнімалася бура, трывогі і жаданьні будзілі ў чалавеку бунт проці неабходнасьці цяжкіх перажываньняў, проці смутку. Бунт ачышчаў дарогу да нечаканых уздымаў радасьці... У чалавека напружваліся і дзейнічалі думкі. Пасьля ізноў гэта ўсё ападала. Так і было, так ішла барацьба ў настроях. Так ўсё то кіпела, то роўна плыло. І было яно ўвесь час з рознаю сілай, пакуль ня сплыло...

А Буланы еў сабе паволі, спакойны затым, што сена было смачнае, здавольнена цёрся губамі аб жолаб: і сьвет з бурамі і цішынёю быў для яго тым, што можа можна папрабаваць выказаць словамі: павольнае здавольненьне.

Для яго ня было ні Рамана, што стаяў пры ім, ні ўсякіх там адценьняў усяго.

Раман-жа быў повен усім. Твар яго быў тады больш жывым, як заўсёды, і адбіваў на сабе зьмены адчуваньняў, і загэтым выразы яго былі нешта адналікае з вакольным, і ўжо ў гэтым сама па сабе зьяўлялася процілежнасьць хаосу; было імкненьне.

І недасяжна было для Буланага тое, што Раман пасьля паспакайнеў, як ўсё сплыло на хвалях часу: бо яно пачало забывацца, раставаць у бясконцнасьці...

І вясною, калі араў Раман на Буланым поле і дзьмуў сухі вецер, зусім ня было ў яго жаданьня сьціснуцца ў адзін жмут, зрабіцца малым, а было імкненьне, зьвязанае з нейкім адвечным чалавечым бунтам—як бы вырасьці, каб быць прыметным усяму,—так, як шырокі вецер і гулкія зыкі.

Ад гэтых гульлівых і несьвядомых жаданьняў было тое, што Буланы часта атрымліваў па сьпіне і ўжо злаўчыўся баяцца Раманавага гуку:

— Эй ты, малы. Фюйц!..

І гэта Раман рабіў без жаданьня пакрыўдзіць Буланага, гэта так толькі ўмеў ён выявіць тое, што было ў ім.

Калі Раман выпрагаў Буланага і пускаў яго грызьці межы, а сам лажыўся каля воза жаваць абветраны хлеб ды ціха сабе думаць, у Буланага зьяўлялася ў першы момант якраз тое, што людзі ў сябе называюць уздымам радасьці.

Так яно йшло заўсёды роўналежна—у Рамана і ў Буланага.

* *
*

Цэлы той дзень валачыўся Буланы па полі. Нічога ён там не пад'еў, толькі зьмёрз, бо к канцу дня захаладала і змрок стаў імглістым. І як чорны быльнік і голыя кусты пачалі зьлівацца з зямлёю, прышоў ён дадому, калі ўжо Раман Драгун зьбіраўся йсьці па яго.

Два дні ляжаў на зямлі сьнег—няглыбокі й вільготны, і аднэй раніцы паслужыў ён тэмаю для гаворкі:

— Зямля не замёрзла, а сьнег ляжыць,— сказаў Раман Драгун, стоячы ў саду пад грушаю; і, прымеціўшы на другі бок плоту Янку Самахвала, яшчэ сказаў:—Нялюдзкая некая зіма.

— Ат, якая гэта зіма,—адказаў Янка Самахвал, ня думаючы, да яго гэта гаворацьць ці не,—хіба гэта сьнег,—гэта гразь, а ня сьнег.

Раман Драгун угледзеў каля плоту трухлівы пяньчук, летам яшчэ прывезены ім з лесу і падумаў: „От валяецца, яшчэ горш згніе. Трэба пасеч—то згарыць у печы“.

Тады пашоў у сені, узяў сякеру й пасек пяньчук, а пасьля гэтага сказаў сам сабе:

— Карысьці з каня няма жаднае. Ня будзе на весну ім рабіць як усё роўна. Прадаць яго трэба, хоць ты што хочаш.

І ўжо, як седзячы за сталом, засыпаным хлебнымі крошкамі, еў, усё думаў, якую гэта цану за яго прасіць. А пасьля паволі і нек асьцярожна закурыў, сеў на Буланага і паехаў за пяць вёрст.

Там некія людзі, у доўгіх крамных сьвітках і чорных кажухох, падперазаныя шэрымі й чырвонымі паркалёвымі паясамі, з барадамі і без барадаў—доўга тузалі Буланага, абмацвалі яго, праганялі паміж вазоў, ляпалі па ім рукамі й пугамі, крычалі нешта ў яго перад мордай, пасьля таксама ляпалі па плячох Рамана Драгуна, тузалі й яго, білі па руках і ўсё трасьлі галавамі. І, нарэшце, зусім пакінулі й Буланага і Рамана Драгуна. Пасьля яшчэ па-

дыходзіў нейкі высокі чалавек у зрэбных порткіх і суконнай жакетцы. Ён два разы ляпнуў Буланага па заду, пасьля правёў рукою па шыі і галаве, да болі расьцягнуў яму верхнюю губу, каб глянуць на зубы і раптам адышоўся.

А Раман Драгун пасьля ўсяго гэтага стаяў і думаў: „Нічога ня будзе: скура, і дзела з канцом“.

Было тады ў яго нешта падобнае да злосьці і як-бы гэта на Буланага, што ніяк выгадна не прадаць яго ўжо.

— Ну ты, скура,—сказаў ён з вяліка-сталым выглядам і пачаў на яго садзіцца...

---

Конна на Буланым ехаў вастратвары Раман Драгун; усё тоўк Буланаму заднікамі шырокахалявых і нізенькіх рыжых ботаў пад чэрава ды пасьвістваў:

— Фюй-фюць!..

А Буланы і вухам ня вёў. Праўда, ён то гэтыя вушы натапырываў, але нагамі перабіраў павольна. Толькі калі часамі вельмі ўжо моцна сьвісьне Раман Драгун, дык тады Буланы нек спрытна, але стала, шавяліў задам ды яшчэ крывіў на бок морду. Морда крывілася лёгка, і быў выраз усяго гэтага такі, як-бы гэта Буланы хацеў сказаць Раману Драгуну:

— Сьвішчы, сьвішчы, фюйкай сабе паволі, ці як сабе хочаш. Што-ж з гэтага—ты Драгун, а я Буланы. Ты сядзіш на мне, а я йду: а дарога сабе макраватая, пасьля дажджу...

Так гэта нек уяўлялася, што гэтак—так думаў Буланы. На самай-жа справе ён нічога ня думаў, бо ня ўмеў думаць. Нек трохі блыталася недзе ў ім, у глыбіні галавы, ці то гэта так недзе ў істоце, а дзе—хто яго ведае—што гэта, як хваціў быў ён нядаўна на двары ў Сымона Шрота аўса, да якога Раман Драгун па дарозе заехаў на ім (што Сымон Шрот зваўся Сымонам Шротам, таксама Буланы ня ведаў), дык вельмі ж пасьля гэтай жмені аўса пагнала яго сьліну і хацелася тады больш хваціць аўса, але Сымон Шрот, узяўшы ражку з аўсом і аблаяўшы курэй, якія зазіралі яму ў вочы, недзе зьнік. Сьліну гнала некалькі хвілін, а пасьля й гэтая работа заціхла, але жаданьне жаваць авёс і цяпер засталося.

Пасьля Сымон Шрот пагладзіў Буланага па шыі, паглядзеў яму ў зубы, пасьля нечага пацерабіўся трохі каля хваста і сказаў Раману Драгуну:

— Я сягоньня закалоў два япрукі. Адзін япрук Юрасёў, а другі Ўладзяў, дык вечарам пайду на сьвяжыну, а цяпер мне час ёсьць.

Дык я, што робячы, ражку аўса думаў у жорнах змалоць на вобмешку. А тут бачу—ты едзеш... Дык я, паглядзеўшы на твайго Буланага, проста кажу, што з гэтага каня нічога ня будзе—стары й дыхавічны; я табе кажу, калі ты хочаш ведаць.

Раман Драгун у гэты час выдзьмухваў з вусоў пыл, які яшчэ з самага ранку пазалазіў туды, але, пачуўшы словы Сымона Шрота, забыўся пра гэтую работу і заявіў:

— То я гэта табе набіваюся з канём гэтым, ці што? За каго ты мяне лічыш?

— Я не кажу, што ты мне набіваешся з гэтым канём. Я не кажу, што ты ня можаш набівацца. Набівацца ты можаш, але нашто гэта табе—каня гэтага я ўсё роўна ня куплю. Што ты розуму ў галаве ня маеш, ці што; я табе кажу, калі ты хочаш ведаць...

Раман Драгун паволі сеў на Буланага і накіроўваў яго на вуліцу. А на вуліцы пачуў голас Сымона Шрота:

— А дзе ты Каштана дзеў?

— Прадаў,—адказаў Раман Драгун і паехаў.

На гэтым гаворка і скончылася, і Буланы цяперка ішоў сабе і ледзь прыметна адчуваў, як яму хочацца аўса, ды яшчэ тое, што так-жа ня будзе, некуды дашоўшы, нешта будзе есьці...

Раман-жа Драгун аб ядзе ня думаў. Перш, як толькі ад'ехаў ён ад Шротавае хаты, дык адчуў думку аб тым, што шырокаверхая старая салдацкая шапка ўсё наяжджае на лоб. А пасьля прыпомніў свае справы, што вось трэба будзе гэтага самага каня прадаваць ды купляць другога; а гэта—чорт яго ведае, вельмі-ж клопату многа. Няхай-бы ён быў-бы сабе і быў гэты Буланы, і не старэў і ня трэба было яго са сьвету зводзіць. І як-бы нешта падобнае да злосьці шавяльнулася ў ім на Буланага. Праўда, яно-то за жыцьцё прывыклася да гэтага клопату, але нек цяпер вельмі-ж многа яго—усякія гэтыя дробязі зьбіраюцца ў адно, дык вельмі-ж мучаць яны. А тут яшчэ ўсякія думкі апаноўваюць.

А пасьля й гэтая думка сплыла. І тады прыпомнілася самае важнае, што ўсё рупіла неяк несьвядома, знаходзілася недзе ў глыбіні істоты і не афармлялася ў думках, а цяпер неяк раптам выплыла, зьявілася й выявілася ўжо, як моцнае настойнае разуменьне: „Гэта-ж Буланага калі ніхто ня купіць, трэба будзе пусьціць пад нож на шкуру, яно-то ўсё роўна яму ўжо канчацца, але“...

І тут ужо раптам была новая думка: „А можа яго і купіць хто“...

І тут-жа выявілася яшчэ новая думка: „То ўсё роўна-ж гэта яго на шкуру купяць...

І тады ўжо пачало гэта пераходзіць з думак у пачуцьці.

— Яна то лепш ня думаць аб гэтым,—сказаў паціху Раман Драгун, мала ўжо разьбіраючыся аб тым, аб чым гэта ня думаць.

А пачуцьцё было. Было гэтае яно цьмянае і некае новае. Тады, як раніцаю калоў ён трухлявы пяньчук у саду, тады аб Буланым думаў таксама, як і аб гэтым пяньчуку: „От пяньчук раскалю, а Буланага прадам“, а цяпер Буланы раптам як-бы вырас сваёй істотаю для думак. І на адзін, на адзін толькі момант стаў ён якбы мяжою між двума адчуваньнямі сьвету.

Утварылася вострае разьдзяленьне між пяньчуком і Буланым: матэрыял і істота; матэрыял для жыцьця і жыцьцё; і матэрыял для жыцьця ад жыцьця. Глядзі ты на матэрыял—што скажа жыцьцё? Глядзі ты на жыцьцё, каб цьвіло—Буланы робіцца матэрыялам...

А тут якраз пачалі пералятаць цераз дарогу вароны, пачалі шукаць нечага на ёй і адцягнулі ў бок Раманавы думкі; уявілася, што вароны пахнуць ветрам, а вецер пахне мокрымі кустамі. А ў кустох, пэўна, яшчэ відна з-пад мокрага сьнегу мокрая і зжаўцеўшая

трохі за восень трава. Дык тады і ўявілася яшчэ, што гэта і хаты там скрозь стаяць, і людзі там, і вакол ходзяць, і дарогі пад мокрым сьнегам ляжаць, і ўсё гэта-ж прывычнае і блізкае. Гэтае ўяўленьне прывычна і натхнёна заўладала раптам пачуцьцямі зусім і цераз глыбіню істоты разагнала папярэднія думкі, і тады ўжо ясна адчулася: дык Буланы гэта стары, яму ўжо канец падыходзіць. Гэты канец прыдзе, зробіцца неяк, адыйдзе, а я пра яго забуду, а сам буду жыць, бачыць усё. І ня мной гэта ўсё зроблена і ня мной будзе перароблена.

І раптам, як бунт некі, выбухнула вастрата думкі: „А ці не павінен я ў гэтым рабіць што? Чаго-ж гэта еду я спакойна, калі вакол так?“

Але гэта думка засталася няскончанай і нават зусім не сформаванай, бо раптам прыпомніў неяк, што заўтра нядзеля, і пры гэтым уявілася, што ўсё будзе такім, якім будзе.

А пасьля зноў зьяўляцца стаў нейкі непакой, як-бы ад таго, што Буланаму падыходзіць канец.

— Чорт яго ведае, от разьбярыся тут,— сярдзіта плюнуў Раман Драгун і ткнуў Буланаму заднікамі ботаў пад чэрава.

Гэта работа навяла яго на звычайнае, і зьявіліся новыя думкі аб тым, як гэта ён на

ахваціла яго нейкая як-бы трывога, і цяпер было нядобра ў адчуваньні надыходзячага. Ён падышоў бліжэй, да канца мосту, пад самы той бераг, і яшчэ заглянуў ёй у твар. Прымеціў зьмятую ад ляжаньня левую палавіну твару, дзьве сінія жылкі на шыі і цёмную маршчынку пад вокам. Ён прыжмурыў вочы і ў цэлым захапіўся тады хараством яе твару. Пасьля зноў стаў заўважаць тыя дробезі, і стала зноў яму нядобра. Шкода вельмі стала нечага, і адчуў ён вялікі смутак па тым харастве, якое бачыў тады вечарам у час яе скокаў і якое насіў у сваіх адчуваньнях усе гэтыя дні...

Нонна бачыла, што ён пільна глядзіць на яе, і ён, пасьля тых дум і мараў, якія былі цэлы дзень у яе, здаўся ёй нейкім нязграбным, і ёй захацелася пасьмяяцца над ім. І яна пачала цьвяліцца з ім. Яна з жаночаю тонкасьцю чуць усьміхнулася яму здалёк. Гэтая ўсьмешка зноў абудзіла ў Андрэя нешта падобнае да таго, што было з таго самага вечару, толькі больш жывое, з большаю перавагаю думак. І тое, што было кагадзе, дало яму нейкую бадзёрасьць і нават нейкі задор, нейкую нават насьмешлівасьць, толькі трывожную і вострую. Ён прыжмурыў левае вока і таксама скрывіў твар усьмешкай.

Тады ёй раптам спадабалася далей разгарнуць гэткую гульню, нейк адчула яна, што можа ўзяць пад уладу сваіх усьмешак і выразаў твару гэтага чалавека, і яна сагнала з твару усьмешку й надзьмула губы. Яна гэта рабіла выгляд сталасьці, а ўсе рысы яе твару сьмяяліся. Тады Андрэй пашоў да яе на бераг. Яна падняла голаў і зноў як-бы ўсьміхнулася, зрабіўшы гэта так, што можна было захацеўшы падумаць, што гэта яна й не сьмяецца.

— Сьмешна?—з фальшывай гіроніяй, стараючыся паказацца вясёлым, сказаў Андрэй.

Тады яна чуць прыметна маргнула яму правым вокам і апусьціла голаў уніз.

Ён сеў непадалёку і, стараючыся сілай захаваць на твары ўсьмешку, глядзеў на яе. Яна павалі падняла голаў і, паставіўшы нек коса вочы, некалькі момантаў моўчкі глядзела на яго твар.

І ён здаўся тады ёй інакшым, чым раней. Нешта заўважыла яна ў ім шырокае, затаенае сама ў сабе, моцна адрозьненае ад таго, што бачыла яна ў іншых на гэтым самым беразе і заўсёды на дарогах і глухіх гэтых мясьцінах. Нешта было ў іх для яе нагляданьня, што ня было зьвязана з тым, што яго абкружвае і што можа трымаць у сваёй уладзе многіх. Ён

уявіўся ёй нейкім неразгаданым, хоць нельга сказаць, каб цікавым. Сама ня ведаючы, як ёй далей трымаць сябе, яна апусьціла ў ваду сухі дубец, пачала вадзіць ім у вадзе і нешта насьвістваць задумёна-вясёлае. Ён-жа адчуваў, што яму трэба сказаць што-небудзь і ня ведаў што... Так сядзелі яны моўчкі некалькі хвілін, доўгіх для яго й поўных нейкага, нават вясёлага нейкага чаканьня для ее. Пасьля ён нагнуўся, узяў у руку некалькі берагавых каменчыкаў і пачаў моцна кідаць іх у ваду.

Яна зноў усьміхнулася, з большаю мяккасьцю.

— Чаму ў вас тут ціха сягоньня,—сказаў ён і тут-жа паправіўся:—Нудна тут сягоньня ў вас. Брат ваш гаварыў мне сягоньня, што музыканты вашы паехалі.

— А дзе вы брата майго бачылі?

— Тут.

— А нашто ён гаварыў вам гэта?

— А от трэба было яму дык ён і сказаў.

Яму было прыемна й здавалася патрэбным гаварыць так, каб ёй здаваліся здарэньні не такімі простымі, нават таемнымі. Ён ня ведаў, што гэта яна гуляе з ім, пакпіць хоча над ім, ці гэта ў яе тут жаночая незразумелая шчырасьць... Ён ужо не прымячаў яе твару, ён

глядзеў на яе рукі, на фалды шырокай яе адзежы. І не спадабалася яму, што многа блішчастых караль у яе на шыі, яны мелі выгляд крыклівы й рабілі ўражаньне нейкага блішчастага звону і гэтым зьневажалі глыбокае хараство...

Яна бачыла, што гэты хлапец нудзіць па нечым і ў гэтую хвіліну па ёй. І сваім пачуцьцём жаночым дагадвалася, што нават гэта ня зусім па ёй, а ў ёй наогул па жанчыне, па яе прывабнасьці. Яна разумела гэты смутак мужчыны і ўжо на вопыце ўпэўнілася, што не пастаянны ён у мужчыны да аднае жанчыны і пройдзе пры цеснай блізасьці і тады прабудзіцца нявызначаны і агульны не перад ёй, а перад паняцьцем „жанчына“... Яна ўспомніла былую зіму ў горадзе, і ўсё гэтае ўразуменьне зьняважыла яе, і яна раптам варожасьць вельмі кволую й незаўсёды прыметную адчула да Андрэя. І ёй раптам стала патрэбным памучыць яго, каб пасьля назаўсёды забыць, бо цяпер ужо зусім адчула яна, што няцікавы й непатрэбны ён ёй. Так яна й пачала з ім цьвяліцца. Яна яшчэ ўсьміхнулася яму, пасьля вырвала пальцамі травы й кінула на яго. Ён устрывожыўся радаснай трывогай і востра глянуў на яе. Яна пажаночы глянула на яго й апусьціла вочы.

Тады ён падсеў да ее бліжэй. Яна зноў усьміхнулася, зноў апусьціла вочы. Ён падняўся, падышоў да яе і раптам сей зусім блізка і прыціснуўся да яе. Яна маўчала, і ён моцна сьціснуў яе руку, а пасьля абхваціў рукою яе плячо. Яна ўжо знала, што гульня скончана, што ўсё ўжо зроблена, што для тае мэты больш можа толькі пашкодзіць. І яна пасядзела так з ім поўхвіліны і, ціха адапхнуўшы яго, паволі ўстала й, паважна гойдаючы станам, пашла ў свой бок. Ён ня зьдзівіўся гэтаму, толькі не чакаў гэтага. Ён усхваціўся раптам і пашоў за ёю. І ў тую хвіліну радасна блiснула ў яго ўпэўненасьць, што гэта-ж яна наўмысьне, каб ён ішоў з ёю, што яна шчырая з ім. А яна азірнулася і сказала яму:

— Ня йдзі.

— Я пайду,—сказаў ён з горкай трывогай.

— Ня йдзі, нічога табе ад мяне ня будзе. І нічога табе ад мяне ня можа быць.

— Можа быць,—сказаў ён з пачуцьцём блізкім да пачатку злосьці.

— Ну-ну!—сказала яна горда з фальшывай сталасьцю.

— Нонна!—пазваў яе ён.

Яна зьдзіўлена паглядзела на яго і зноў пашла. І, дашоўшы да самай будкі, яшчэ раз

азірнулася і з такой-жа фальшывай сталасьцю, але ўжо са сьмехам у вачох, паківала на яго пальцам. І схавалася ў будку.

Ён некалькі хвілін стаяў на адным месцы, з прытупленаю вастратою ў пачуцьцях, пасьля пашоў назад і стаў на мосьце і глядзеў моўчкі на ваду. Пасьля яму стала брыдка перад ёю, што ён стаіць тут і не адыходзіць; пачаткі гордасьці заварушыліся ў ім, і ён плюнуў уніз і пашоў кустамі на палявую дарогу.

— А ну яе к чорту,—сказаў ён моцна з патугаю, нясучы ў душы смутак.

І ахваціў гэты смутак думкамі, вышаўшы ў поле. Тады яскрава й выразна думаў, што гэта-ж па гэтай цыганскай дзяўчыне такі вострый смутак у яго.

## V

У тую ноч Нонна доўга ня спала. Была ў яе журба і даходзіла да мяжы са смуткам ..

Тады сьвяціў над паплавамі месяц і ясна, і пуста, і страшна ціха было ў прасторах. Бялела нейк далёкая роўнасьць зямлі, ня шумела трава і іншых ніякіх ня было зыкаў. І моцна пахла вясеньняю ноччу... Некалькі разоў з вечару пачыналі плакаць далёкія птушкі, а пасьля толькі раз адна крыкнула... Так і сьвяцілася ноч і ціха драмала...

Брат Нонны з вечару доўга хадзіў каля будак, гаварыў з старым цыганом з другое будкі, пасьля хадзіў путаць коні й доўга там сьвістаў ім і, як пачаў узыходзіць месяц, лёг у будцы і зразу моцна заснуў. І ў суседняй будцы спалі. Тады Нонна вышла босая й неадзетая і села пры рэчцы і сядзела так не варушачыся. Яе некуды цягнула, хацелася некуды йсьці, нешта рабіць, дзейнічаць, нешта й некага пакінуць, нешта й некага знайсьці. Але было гэта нявызначаным у сьвядомасьці, як пункт. Нешта давіла ёй душу і падобна было, што як-бы гэта нешта было добрае, патрэбнае й слаўнае, і цяпер няма яго... І трудна было ёй прывясьці ў парадак пачуцьці. Давіла яе й тое, што сьвяціў над паплавамі месяц і разам з тым нейк і важна і патрэбна было тое, што сьвеціць ён. Давіла цішыня й размах пустых прастораў і разам з тым дарагою й любаю была гэтая шырокая ціш.

Плылі ў галаве кавалкі думак аб тым, што было дагэтуль, і думалася нейк нутром аб тым, чаго й ня было, што было нязнаным, нябачаным. У смутку варушылася нездавальненьне нейкае і журба аб усім, журба вострая, рухавая, жывая і цяжкая і любая, журба аб жыцьці. Такая няроўная, якою бывае й радасьць аб жыцьці,

такая-ж патрэбная для абнаўленьня жыцьця...

Было журботна й ад таго, што адзіноцтва было вакол і як-бы гэта залазіла яно ў душу. Было гэта няпрывычным і можа ад таго, што паехалі ўсе, пашлі адгэтуль назаўсёды маладыя і блізкія і цяпер вось недзе нешта думаюць, робяць і адчуваюць... І раптам вынікла думка аб сваёй згубленасьці тут, бо нейк цьмяна адчулася, што недзе нешта існуе іншае, якое—невядома, але ўявілася яно, як пункт здавальненьня для чалавека.

„Можа гэта нашы там зусім вясёлыя і думаць ім нічога ня трэба", выразьней за ўсё раптам падумала Нонна.

А пасьля йзноў сядзела і ўсё адчувала і знае, і нязнанае і толькі не адчувала таго, што ад адзіноцтва васеньняй ночы і маладой чуласьці гэта ўсё ў яе... І яшчэ было ў яе, але больш ужо ў думках, нездавальненьне ад таго, што адна яна тут, ніхто яе ня бачыць, ніхто на яе не глядзіць, не гавораць пра яе, не захапляецца ею... І ў сярэдзіне ночы пачала ў яе сьпець думка, сьперш няроўная, а пасьля з адзнакамі мала калі быўшай дагэтуль рашучасьці... І часамі ёй хацелася, доўга і ціха...

Месяц высока падняўся і пабялеў і пабялела нізкая трава; холадам дыхала рэчка і недзе

лёгкім стукам абазвалася дарога. Ноч пераламалася на другую палавіну, і больш востра запахла ўсё. Нонна ўстала й паволі пашла па беразе рэчкі. Дашла яна далёка, да нейкай чорнай ральлі, у задуменьні пастаяла там на адным месцы і пашла назад. Раптам усё пачало кіпець у яе настроях, узьнялася нэрвовасьць, і яна пашла хутчэй. І проста ўвашла ў цёмную будку. Там лягла пры халодным палатне і пачала плакаць, стараючыся не пабудзіць нікога. Пасьля яна сьціхла, але з плачам у душы сьцішылася й пад самы дзень дрымота агарнула яе...

Прачнулася яна, як было ясна ад сонца. Брат зьбіраўся ехаць у горад, каб прадаць там коні і шукаць там на зіму кватэры, і яна вяла пачала памагаць яму. І ў час гэтай работы вярнуліся з гораду дзьве дзяўчыны, што нядаўна жылі тут. Вярнуліся, каб сказаць ёй, што наняліся яны ўсе на цэлую зіму сьпяваць у кафэ і што без яе няможна абыйсьціся для танцаў. І што трэба сьпяшаць выехаць той у горад.

Бесклапотная гульлівасьць і вышыня настрояў раптам ахвацілі Нонну. Яна пачала сьпяваць і дурэць, як дзіця. І такі настрой не пакідаў яе доўга, хоць трохі пасьля прытупіўся...

Па поўдні яны даехалі да гораду. Брат Нонны там застаўся, а тры дзяўчыны селі пад вечар на поезд і выехалі ў дальні горад... Брат кіўнуў Нонне галавою; у яго нядобра і сумна было на душы...

## VI

Два дні ня мог прыйсьці да сябе Андрэй. Каб забыцца, моцна ўвашоў ён у работу, стаў маўклівы, і вечарамі выходзіў на вуліцу слухаць, як гаварылі над старым дахам жоўтыя клёны. Нейк не па сабе яму было й ад таго яшчэ, што, як дазнаўся ён, што няма ўжо на беразе палатняных будак, а, значыцца, няма блізка й Нонны, цьмяна й неаформлена адчуў, што нават сумна-тонкія і вострыя перажываньні засталіся нават як-бы й не па Нонне, а так нейк па нечым, можа па тым, што ёсьць, а можа па тым, чаго няма зусім і чаго не хапае ў сьвеце, і па чым сумуе і ад чаго кіпіць глыбіня чалавечай істоты. Многа тады пачало зьяўляцца ў яго новых думак, нябывалых дагэтуль. Было чаканьне нечага і нецярплівасьць. А на трэці дзень прышоў да яго ліст з дальняга гораду ад земляка. Звалі яго ў горад, і ад гэтага перавярнулася ў ім тое, што навявала папярэдні настрой. Раптам ён ясна прыпомніў Нонну, як яна ўсьміхалася, а пасьля не дазволіла яму

йсьці за сабою, і раптам вырасла ў ім упэўненасьць, што ён нейк вышэй яе стаіць на зямлі; што ён больш значны і гордасьць яе няважна нікому. Сум у ім астаўся шырокі, але нейк раптам вышла з яго кругу Нонна і зрабілася нечым асобным. І зноў яна неўзаметку пачала вырастаць і аддзяляцца ад усяго. Тады ён стараўся зьняважыць яе ў думках сваіх, а яна яшчэ больш вырастала. І ён доўгімі і настойнымі думкамі вызваў у сабе на яе нешта падобнае да злосьці. Сілаю ўпэўніў сябе, што гэта злосьць і што так трэба, што гэта абсолютная сапраўднасьць. Пасьля-ж набеглі, згусьціліся пачуцьці і заглушылі ўсё гэтае, што было ў думках. Тады зьявілася толькі мяккая крыўда на Нонну і ад гэтага прышло сапраўднае ўжо ўзвышэньне над ёю, затаенае ў самым толькі сабе. Тады яму зрабілася самому перад сабою брыдка й нядобра за тое, што паддаўся ён быў у той першы дзень слабасьці—у сувязі з тым, што ўбачыў яе першы раз, варушыў сваю душу, паднімаў з яе дна ўсё пережытае, вострапакутнае і цяпер ужо сьвятое; што плакаў ён вечарам на холаднай зямлі. І нават нядобра адчуваў ён сябе перад братам... Пасьля раптам наплылі на яго ўсякія думкі, у якіх патроху зьнікаць стала Нонна і патроху апускацца па-

чалі пачуцьці. Ён ужо з братам гаварыў аб усякіх справах, вырашалі ўдвух час яго ад'езду і ў апошні дзень перад ад'ездам езьдзіў ён з братам на поле. У думках яго ўжо малявалася шырыня новай працы, вельмі важнай і патрэбнай, усякія магчымасьці і новая прывабнасьць.

Перад самым выездам зусім амаль згладзілася з думак і нават пачуцьцяў Нонна...

Горад спаткаў яго вясёлага, прыняў яго здольным лёгка ўжо прапускаць праз сябе ўсё, не прымячаючы ў вялікім шуме вялікай цішыні. Гэта было першае поўнае здавальненьне жыцьцём, незачэпленае расчараваньнем.

Быў шосты дзень пасьля таго вечару, калі ён засумаваў па цыганскай дзяўчыне.

## VII

У той сухі і ясны вечар, як у гарадзкім садзе з ліп і асін ападалі апошнія лісты, балетмайстра музычнай комэдыі Лінскі ў дрэнным настроі ішоў з тэатру. Перад спэктаклем даведаўся ён, што жонка яго езьдзіла ў суседні горад зусім не для тых спраў, аб якіх гаварыла, а езьдзіла дзеля зусім іншага, аб чым цяпер сьведчыў перахвачаны ім выпадкова ліст да жонкі ад нейкага Аксютовіча. І хоць Лінскі сам часта езьдзіў у іншыя гарады не для тых

спраў, аб якіх гаварыў жонцы, хоць спэктаклі ў тэатры й не зацягваліся да таго позьняга часу, у які Лінскі прыходзіў кожную ноч дадому, але пакуль што жонцы яго ніякіх лістоў перахваціць не давялося, і загэтым Лінскі лічыў сябе пакрыўджаным жонкаю. І хоць балет у тэатры ў той вечар добра ўдаўся, не разагнаў усё роўна кепскага настрою Лінскага. І пасьля спэктаклю вышаў ён першым, не пашоў з артыстымі разам, а адзін зашоў у гарадзкі сад. У глыбіні свае душы ён быў нават рад таму, што выявілася ў адносінах жонкі да яго, бо будзе прычына, выгадная для яго, разыйсьціся хутчэй з ёю, але надворна было яму прыемна адчуваць сябе пакрыўджаным. Ён сеў на пустую лаўку ў садзе і стаў слухаць як зашумелі раптам дрэвы і больш тады западалі лісты на зямлю. Ад гэтага й ад віднаты адчуў ён урачыстасьць ночы і вялікасьць хараства. І патроху тады забыў ён пра сваю мізэрную крыўду, і прыемна было яму сядзець тут. Раптам пашкадаваў ён, што спэктакль ужо скончаны і што няма як ужо слухаць музыку і глядзець на хараство балету і жыць у тыя хвіліны толькі пачуцьцямі. Ён сядзеў і маўчаў і сам таго не прымячаў, што моцна думаў аб многім...

З асьвечаных вокан кафэ сыпануліся на яго сухія кароткія зыкі некай полькі і трудна было разабраць яму, на чым гэта ігралі. Тады ён пашоў туды, адкуль беглі зыкі, увесь ахвачаны жаданьнем толькі слухаць, бачыць і адчуваць...

У кафэ на нізкай эстрадзе стаяў тоўсты, прысадзісты чалавек з гітарай у руках і на заднім пляне яшчэ некалькі гітарыстых. Цяпер яны маўчалі.

— Нонна Аліна выкачае польку,—заявіў тоўсты гітарысты, і Лінскі сеў за столік з бяздумным чаканьнем.

Гітарыстыя пачалі выбіваць на гітарах такт, і Лінскі ўбачыў Нонну Аліну. Пры вячэрнім сьвеце твар яе здаваўся сумным і вясёласьць штучнаю, і нейкаю надзвычайна далёкаю была яна ад усяго, што было вакол яе. Толькі прашло ўсё гэта, як пачала яна скакаць і раптам здавацца стала, што гэта не прымячае яна нікога і скача сама для сябе.

Лінскі адчуў радасьць блізасьці хараства і нейк нават у большай меры, чым у тэатры, здалося гэта самым важным і затоеным само ў сабе. Тады стала для яго мізэрным усё тое, што ён кагадзе адчуваў; нязначным і ліст да жонкі, перахвачаны ім, і вялікае адчуваньне малое крыўды. І нейк як-бы занудзеў ён, што ні-

хто не адчувае тут гэтага хараства, а пасьля зьявілася патрэбнасьць у ўзвышэньні яго. Тады пашоў ён блізка да эстрады і нецярпліва чакаў, калі яна зыйдзе адтуль. Пасьля доўга гаварыў з ёй у суседнім пакоі. Вынікам гэтай гаворкі было тое, што Нонна ад радаснай нэрвовасьці доўга не магла заснуць у тую ноч, а назаўтра Лінскі зашоў у брудны, праходны пакойчык, дзе жыла Нонна, і ўдваіх пашлі яны ў тэатр на балетныя спробы. Цераз пяць-жа дзён у афішах да тэатральнай пастаноўкі было напісана: „...Выступіць новая прыма-балерына, цыганка Нонна Аліна“...

---

Андрэй бачыў яе ў тэатры на сцэне. І зноў ахапіў быў яго сум па ёй, але цяпер іншы, чым тады—сум моцнага, які можа ўзяць тое, па чым сумуе, ды разважаньні не дазволяць гэтага. Сум гэты насіў ён у сабе доўга, упэўнены, што пройдзе ён. І ён прашоў, толькі пакінуў па сабе сьлед—упэўненасьць у тым, што ўва ўсім ёсьць смутак і ўва ўсім ёсьць шчасьце...

А ўсё-ж стараўся ён не сустракаць Нонны і ня бачыць яе.

# ПАРФІР КІЯЦКІ

*(Малюнкі людзкіх адчуваньняў)*

I

Ішло яно доўга і часамі нават раней ужо зьяўлялася, але, памучыўшы трохі, адыходзіла. А гэта прышло зусім і моцна заявіла аб сабе: я ёсьць! І тады здаровы і моцны мужчына—гарадзкі поп Парфір Кіяцкі—адчуў: гэта-ж смутак. І самае важнае было ў адчуваньні, што гэта не на жарты, што прышло яно з вялікаю й страшнаю меркаю. Паставіць яно чалавека перад сабою і скажыць сурова: „Пачакай-жа ты, брат ты мой, вот я табе адно перамераю, што ты такое ёсьць. Тады я табе дам, вызначу табе тое месца, да якога ты падыйдзеш па гэтай мерцы“.

Сьперш хадзіў Парфір Кіяцкі нек як-бы што згубіўшы, адчуваў сябе так, як-бы сапраўды яго мералі, пасьля пачаў адчуваць, што ў гэтым як-бы ўжо некая нормальнасьць. Тады начамі ня

спаў, падоўгу хадзіў з кутка ў куток і бесьперастанку курыў...

— Што з табою робіцца?—папытала раз жонка.

Ён паглядзеў на гэтую сытую, прывабную жанчыну, будзіўшую ў ім заўсёды дагэтуль вострыя жаданьні, здавальненьне якіх заганяла некуды далёка ўсе іншыя смуткі й радасьці, сказаў:

— Смутак мяне заядае.

— Чаго? Ну, чаго ён у цябе?

— Я ня ведаю. Як-бы месца мне няма на зямлі, як-бы тое, што ўва мне і пры мне—ня тое, што трэба, нават мне самому.

— Дзівак ты,—сказала спакойна жанчына—ну, чаго табе трэба? Чаго табе не хапае? Вунь аднаго павідла наварыла я повен склеп. Еж ды жыві.

Ён насьмешліва глянуў на яе і хацеў сказаць ёй што-небудзь вострае й зьневажаючае, але толькі злосна плюнуў сабе пад ногі і пашоў у другі пакой.

Была туманная раніца. Расплывалася імгла й цякла вада. Плакаў сад мокрым гальлём ад радасьці блізкага сонца, і крычалі над садам вароны.

— Дзе дзецца?—сказаў моцна Парфір Кіяцкі і, выкінуўшы з губ папяросу, закурыў дру-

гую. Пасьля прашоў два разы з кутка ў куток і стаў напроці вакна. І адчуваў, як у галаве яго формуецца нешта шырокае й цяжкое, якое, ці то гэта прыназначана давясьці да канца нейкую важную работу з ім, ці то проста, каб мучыць яго. Як-бы гэта й думкі там зьбіраліся й нешта іншае, што некалі было і што яны цяпер зноў цягнуць за сабою. Пачало нешта раптам ціснуць у лоб, хацелася спаць, але ведаў, што не засьне. Так стаяў і думаў. Думкамі стараўся скомбінаваць усё тое, што вакол, зрабіць з яго цьвёрды і малы жмут, каб лепш зразумець яго, каб лепш і беспамылкова вызначыць яму месца, калі яшчэ ўмесьціцца яно ўва ўсякім месцы—бо можа ўвесь сьвет яго—адзінае месца й прычына. Думкі ў яго галаве нек так варушыліся і былі такімі цяжкімі, што як-бы й ня плылі яны, а нек валакліся і прытым усё аб нешта спатыкаліся. Так не маглі яны доўга ясна паставіць перад чалавекам нечага таго, што самы важны, самы патрэбны пункт усяго. Гэты пункт не адчуваўся, была ўпэўненасьць, што ён існуе, а што ён і дзе ён—трудна было ўведаць, і гэта мучыла.

І тады ўжо ясна адчуў Парфір Кіяцкі: „Гэта-ж трэба мне нешта важнае прыпомніць". Адчуваньне гэтае вызвала аднекуль з глыбіні

істоты некую як-бы ўпэўненасьць, што гэта-ж калі ня прыпомніць ён, дык гэта будзе роўна таму, што каб гэта рушыўся раптам увесь парадак сьветабудовы.

Так усё стаяў ён, жмурачы вочы й зьбіраючы маршчакі на ілбе ад наплыву думак.

Чутно было, як за сьцяною ў кухні жонка бразгала жалезнай пасудай, і гэта таксама мучыла. Уяўлялася нек ад гэтых зыкаў, што гэта жонка як-бы стаіць у некай бочцы з павідлам. Павідла ўваходзіць у яе ўсёю ненавіднаю масаю і ад гэтага жонка такая гладкая. І ўжо зьяўляцца пачала нейкая варожасьць да гэтай каханай увесь час жанчыны, некая нават агіднасьць. Усё, што было дагэтуль паказвалася нек іначай, з адваротнага боку. Раптам думацца стала аб тым, як гэтая жанчына ела, а ён глядзеў ёй у твар і з захапленьнем думаў аб сваім каханьні да яе. А гэта ўяўлялася ўсё так: есьць яна — гэта значыцца расьцягваюцца мышцы, паднімаюцца зубы, складаецца туды яда; пасьля праходзіць праз горла й пасьля адваротны бок усяго гэтага процэсу...

— Я, значыцца, пачынаю траціць розум, я хворы, — сказаў павольна і моцна Парфір Кіяцкі. — Так, гэта так і ёсьць... Кончана, значыцца...

Ен усё гаварыў, як-бы стараючыся ў гэтым упэўніць ні то сябе, ні то гэты самы процэс траты розуму.

— З кім ты говорыш?—запытала жонка, уваходзячы раптам у пакой.

— З табою,—раззлаваўся мужчына.

— То што ты мне гаварыў, я ня чула.

— Тое гаварыў, чаго ты не зразумееш.

— Няўжо, патвойму, я такая дурная,—раззлавалася жанчына.

— Я гаварыў,—закрычаў раптам ён,—каб ты пабольш у павідле плавала, дык таўсьцейшаю будзеш!..

Жонка пачала выціраць сьлёзы й вышла, а яго душу запоўнілі роўналежна розныя адценьні чатырох пачуцьцяў: побач умясьціліся элемэнты гумару, горкай злосьці, смутку й абыякавасьці...

— Значыцца, так,—сказаў Парфір Кіяцкі,—значыцца, так... Ага... Так, так, так...

І ён застукаў пальцам па вакне, як-бы разганяючы гэтым свае думкі, ці завучы каго знадворку.

І чым больш стаяў ён так і стараўся нешта прыпомніць, тым больш яскрава ўяўлялася яму, як-бы нешта шырокае плыве яму насустрэч; плыве пад ім, і ён ня ведае, куды глядзець, каб

убачыць тое, што трэба яму... І вось яно патроху прыпыніла свой рух і закружылася ўжо, зьбіраючы й зганяючы гэтым кружэньнем на сабе сваю масу. Маса вырасла на сярэдзіне ў некі ўзгорак, з вострым верхам; і гэтая вастрата раптам стала ўвасабленьнем таго, што трэба, але яго яшчэ засталося зразумець...

— Гэта-ж думкі мае так, — сказаў моцна Парфір Кіяцкі.—Так, так. Гэта думкі так рассыпаліся й зьбіраюцца...

Тады, ужо не стараючыся прыпамінаць, раптам прыпомніў:

Няма ў яго ніводнай думкі ў галаве і настроі яго—як той сіня-халодны вечар, калі было гэта. Прашло якраз у той дзень нешта тое тупое, што мучыла два дні і што яшчэ не аформілася, як востры смутак перад жыцьцём... Гараць агні і крычаць нешта вуліцы вечару, а ён ідзе адзін, з лёгкасьцю пасьля таго сплыўшага, якое й прышло нямаведама адкуль і ад чаго і сплыло нямаведама ад чаго і куды... На яго лінуліся вострыя каплі зыкаў: недзе блізка гралі і стукалі нечым у тахт, і ад гэтага захацелася яму скінуць з сябе футра, бо нек горача стала, паплысьці ў зыках і самому сярод іх арудаваць. Раптам страшна стала думаць пра дзеравяныя сьцены свайго дому, бо яны

нейк уявіліся, як мізэрнасьць, а душа запатрабавала тады ўсяго, процілеглага ёй. Зыкі вырвалі ў адчуваньнях сьветласьць і хараство і яшчэ нейкі простор, у якім патрэбен сьмех і нейкія іскры—можа гэта радасных пачуцьцяў ці лёгкіх настрояў. І тады ўжо ня думалася, а тольki жадалася. Уявілася, што ўсё-ж гэта ёсьць—і зыкі чутны, і агні гараць, і лёгкасьць адчуваецца і не хватае толькі распусьціцца ўва ўсім гэтым, але было адчуваньне, што й гэта надыдзе.

Але тады ўбачыў ён перад сабой жанчыну. Ішла яна лёгка, квола стукала нагамі па цьвёрдаму бруку і гульліва гойдала станам. І нек стала ясна тады яму, што гэта-ж і ёсьць увасобленьне таго, што кагадзе адчувалася, што гэта можа й ёсьць тое адзінае, што патрэбна было яму тады для нейкай гармоніі і ад чаго гусьціліся жаданьні.

Яна прашла трохі перад ім і раптам згінула недзе на раздарожжы вуліц. І як-бы гэта панясла яна з сабою ад яго быўшы настрой; парушыла тое, што кагадзе ўстанавілася: зьявілася раптам страшная ўпэўненасьць, што гэта і ўсё, што вакол—не яго, ня ў ім, а недзе за ім, і да яго мае ён дачыненьне няглыбокае, пустое. І ўся тая гармонія па-за ім. Ён няпрыметны. І ня ён гэта вырас быў істотаю сваёю

на ўвесь сьвет, а сьвет вырас хараством сваім і свая велічыня толькі здалася, бо была істота адрозьнена ад вакольнага.

„То, значыцца, месца нявызначана мне або адарвала нешта мяне ад майго месца“, шавяльнулася панурая, як макрата зьледзянелага сьнегу, думка.

І пасьля зразу пачало расьці ў ім нешта і вострае, і тупое, і важнае, і непатрэбнае... Заставіла яно яго ўвесь той вечар хадзіць па вуліцах і да нечага прыслухоўвацца. А як надакучыла яму хадзіць—балець сталі ногі і прапаў усякі парадак у пачуцьцях і думках, нават нейк як-бы спыніліся пачуцьці й думкі—тады пацягнула яго ў цішыню чатырох сьцен. Там было цёмна і ў гэтым кутку стварыўся свой уласны сьвет, асобны ад таго, які быў па-за гэтымі сьценамі і ў якім ня было месца чалавеку. Тады ён сеў моўчкі ў куток і праседзеў так да паўночы, бяздумна адчуваючы гэтае страшнае й неаформленае... А назаўтра раніцаю яно ўжо вызначылася, як смутак у сьвеце аб сьвеце. І ён адмежаваў яго ад усяго...

Да самага поўдня смутак гэты прымушаў бачыць кволы і недасягаемы стан бачанай учора жанчыны, а пад вечар затаіўся смутак самім сабою і сам у сабе...

## II

Як ужо выявіцца ў адчуваньнях пералом буры душы, раптам зьяўляецца процілеглы таму, што бывае ў пачатку буры. Зьяўляецца вялікая патрэба ў цішыні ды спакоі. І як прыдзе гэтая цішыня—гэта ёсьць ужо новая бура... У часе гэтай патрэбы зьбіраецца ў чалавеку ўсё ў звычайны парадак: паволі і паступова зьбіраюцца ў свае берагі разбураныя пачуцьці, выбіваюцца на свой сьлед звычайны выбітыя з яго думкі. І гэта тады, калі засталіся ззаду жыцьцёвыя горы.

Самае-ж вялікае бывае тады, калі яшчэ бурамі рвецца душа і не пазнаць яшчэ—шырацца буры ці заціхаюць, а істота дашла ўжо да найвышэйшага пункту імкненьняў—або сьцішыць буру, або адыйсьці ад яе, каб яна заціхла сама ў сабе... Тады тое, што змагаецца з варожымі сіламі, выходзіць з глыбіні істоты, па-за яе, і можа выяўляцца ўва многіх, дробных часам жаданьнях, незразумелых чалавеку ў звычайных настроях. Зьяўляецца жаданьне бачыць вакол сябе і ўва ўсім парадак, як-бы гармонію ўсяго, бо бура—хаос, патрэбны для аднаўленьня гармоніі... Гарэла пры сьцяне ў хаце маленькая лямпачка і давала хаце прытульны выгляд, але ляжала на зямлі некалькі

паленьняў дроў і гэта хвораму Паўлу калола ў вочы, хоць гэта было й ня самым вялікім. Самае вялікае даходзіла да сьвядомасьці: ці гэта праходзіць хвароба, ці праходзіць жыцьцё? Але было гэта рэдкімі момантамі, пасьля ападала яно, і думкі былі такімі слабымі, што ня ў іх гэта, а так недзе ў істоце было адчуваньне непарадку ў тым, што накіданы былі ў хаце дровы. Было гэта з самага вечару, а пасьля, у глыбіні ночы, мусіць было вялікае змаганьне жыцьця з хваробаю, і пасьля гэтага, у першыя-ж моманты, зьявілася жаданьне, каб прыбралі гэтыя дровы.

Звычайна ўва ўсе дні хваробы мала гаварыў Павал, а гэта неспакойна пачаў патрабаваць.

— Якія дровы і што яны мяшаюць?—пыталі ў яго.

— Дровы прыбярэце,—прасіў ён і прабаваў падняцца, ды слабасьць мяшала.

А пасьля нек і сіла стала зьяўляцца. Тады прыбралі дровы, падумаўшы, што гэта баіцца Павал холаду і думае, што дровы знадворку халодныя, вільготныя. І хоць прыбралі іх, але ў хворай сьвядомасьці яны засталіся на целую ноч і як-бы цiснулі грудзі. І зусім ужо ўявілася яму, што гэта-ж ляжаць гэтыя дровы на грудзёх і давяць і, значыцца, трэба скінуць іх

з грудзей, хоць ясна было, што параскідаюцца яны ў большым ящчэ непарадку па хаце. Але тады раптам ускінуўся вялікі бунт істоты, бура супроць буры, і няважным стаў непарадак. Вышэй усяго стала сваё „я“, якое давілі і тады.

— Вакол зраблю хаос, а сам паднімуся над ім!..

З усіх сіл рвануўся Павал і раптам пачаў дыхаць раўней. Сьціх і ні то задрамаў глыбока, ні то бура пачала выяўляцца надворнай цішынёй.

Пачалася другая палавіна ночы і мела яна ў сабе нешта падобнае да таго, што было ў пачатку хваробы. У тыя дні нек раптам стала любым, дарагім усё, што было і вакол і раней. Хоць у жыцьці і не зьвярталася на яго ніякай часам увагі, а гэта раптам вырасла яно сваёю прывабнасьцю, веліччу сваёю і багацьцем хараства й глыбіні для радасьці чалавека. Гэта не праходзіла праз Паўлавы думкі, кволыя ад пачуцьцяў, усё перажытае за пяцьдзесят шэсьць год жыцьця, а нейк усплывалі наверх у разуменьнях і адчуваньнях вострыя моманты таго, што ахоплівала дагэтуль жыцьцё. І тады ўжо вырасла тая мяжа, вострае, кволае і патрэбнае чалавеку для ацэнкі шчасьця, па адзін бок якой апынілася тое, што было, а па другі— тое, што ёсьць.

Быў гэта нядаўна ясны дзень, і з самага ранку яму не здаровілася. Ня мог ён малаціць і ўзяў сякеру ды пашоў поплавам на бераг рэчкі высеч алешнікавых прутоў. І адтуль не хацелася яму йсьці дадому. Можа гэта затым, што часта тут бываў заўсёды, сядзеў на гэтым самым беразе, апусьціўшы ногі ўніз. А цяпер толькі ўбачыў, што ў гэтым-жа можа быць месца й нават прычына для радасьці. Раптам стала ўсё любым і хацелася гаварыць з людзьмі... Сеў ён і цяпер на беразе, ахвачаны млявасьцю ад таго, што ўжо забірала хвароба. Так сядзеў і глядзеў на ваду. А яна ўсё цякла-цякла і несла на сабе сухія лісьця, дубцы, некую каламутную пену ды ўсё гаварыла з берагамі аб ціхай вясеньняй волі.

І як каля паўдня пашоў адтуль Павал дадому, зусім цяжка ўжо было йсьці. Скураныя лапці здаваліся цяжкімі, балела галава. А вечарам зусім зьлёг. І ўсё думаў: няўжо гэта старасьць так рана прышла?

У наступныя дні было ў думках тое, як сядзеў на беразе ясным днём і думалася, што няма-ж гэта на сьвеце нічога лепшага за вясеньнія берагі, ясныя дні, гаворкі з людзьмі, і жаданай была, няпрыметная раней, ціхая радасьць вясеньняй зямлі.

І ў гэтую ноч таксама вызначылася яснае гэтае пачуцьцё...

І ў чалавека, і на зямлі было тое нявыказанае, мала кім прымячанае, растаптанае нагамі, пакінутае бяз увагі,—што важнае, заўсёды патрэбнае і вялікае. І імкненьне, і тонкае адчуваньне радасьці, невыказана яснай пасьля цямноты смутку, і ўсё, што ўва ўсім,—было тут...

Яшчэ сядзела ноч на вільготнай зямлі. Сагнуўшыся ад лёгкага холаду, яна задрамала ў перадраньняй цішы. Яна сабе сядзела й не сьпяшала ўставаць, бо была такая пара, калі ёй прыназначана даўжэй быць на зямлі... І гулка беглі тады ўсякія зыкі: абзываліся часам дарогі, людзкія прытулкі; а пасьля гінулі зыкі, і ноч рабілася падобнай як-бы да нейкай вялікае думкі. Было ў ёй многа вялікасьці, якая ня так прымячаецца днём... Дзень будзе прыглушаць усё клопатам, будзе ўзьнімаць у істотах адчуваньні сьветласьці, або ўяуленьні ці думкі аб ёй, бо тады павялічацца людзкія імкненьні; усякае-ж імкненьне мае перад сабой адзін пункт—ясноту.

Была восень.

Востра пахла зямля і дыхала поле неабдымным прасторам. І ўсё, самае нават малое, пра-

ходзячы праз людзкія пачуцьці, поўна было вялікага сэнсу.

І як-бы думалі гэта голыя дрэвы вялікія думы. Ціха лятлі пад імі сухія лісты; яны ўпрыгожвалі сабою зямлю і давалі гэтым асалоду таму, хто адчуваў гэтую прыгожасьць, на сьвеце-ж усё так: сьмерць аднаго здавальненьне другому. І гэта тут вялікі закон выяўляе імкненьне ўсяго да хараства, вялікую здольнасьць усяго хаваць агіднасьць і мізэрнасьць; выяўляе, можа, цяжкую неабходнасьць хаваць ад вачэй сьмерць у кветках і музыцы...

Дык ноч сядзела і маўчала, і пад ёю маўчала зямля—як-бы хацела гэта яна цішынёю вымераць тое, што існуе вакол і на ёй...

III

От так, як гэта часам бяздождждныя хмары пачнуць аблягаць зямлю, так яшчэ з учарашняга дня пачалі аблягаць Мітрафана думкі. Мінулую ноч правёў ён у горадзе і вышаў адтуль рана, каб хутчэй прайсьці гэтыя дванаццаць вёрст...

Выходзіў ён ужо з апошніх вуліц дзеравяных кварталаў, адчуваў істотаю некія вялікія гымны ўсяго ўсяму і раптам пачуў музыку.

Мітрафан азірнуўся і ўбачыў: ідуць людзі, і на тварах іх тое самае, што заўсёды. Нават і гавораць яны аб нечым, аб сваіх звычайных, мусіць, справах, бо таксама, як заўсёды, махаюць рукамі, іншыя паплёўваюць у бакі, чухаюцца, а то ўсьміхаюцца... Пасьля йдуць музыканты, і яны так прывыклі да ўсяго гэтага, што нават не адчуваюць зыкаў, якія самі твораць. Пасьля пара коняй у чорных папонах цягнуць нейкую чорную прыстройку на чатырох калёсах, там белая труна, а над ёю высока сядзіць чалавек з буйным тварам, касматы, цесна падпяразаны па нейкай доўгай стараватай адзежы. Ён, з абыякавасьцю да ўсяго гэтага, стрымлівае лейцамі коні і думае нешта няглыбокае, можа— колькі гэта ён на гэтай справе заробіць; і, ад прывычкі, зусім няма ў яго думкі або адчуваньня, што вось усе вакол яго йдуць, а ён едзе ды вязе ляжачага і няжывога, ды яшчэ сядзіць вышэй усіх...

Мітрафан паволі пашоў з усімі.

Магілкі былі за горадам. Ціха стаялі там голыя бярозы, а дзірван зямлі быў усыпаны жаўцізной іх дробных лістоў. Было тут усё спакойна нек, быў гэты спакой у самай зямлі ды ў сухім лам'і, што валялася пад дрэвамі. І гэтае адчуваньне спакою тут было нейкае як-бы

выпадковае, бо і магілкі будзяць у чалавеку буры і бунты душы і нават часам мацней, як усё іншае, што існуе апрача іх.

Там адчынілі труну, і Мітрафан убачыў белы твар, малы й востралобы, над ім рэдкія сьветлыя валасы, зачэсаныя на бок. Выраз гэтага твару быў зусім асабісты, было ў ім нешта далёкае ад усяго таго, што рабілася тут вакол яго, і тады Мітрафану ўявілася: колькі-б ня гралі тут жывыя, колькі-б ні стараліся яны ў музыцы выявіць, адбіць усё гэтае—нічога ня будзе... Тое, што гралі музыканты, высока й шырока ўзьнімалася над зямлёй. Аўтар, які яго тварыў, стараўся выявіць у ім сум сьмерці, а яно, можа, нават абуджваючы ў кім гэты сум, гаварыла ўсё-ж аб жыцьці, адзначала, што чым глыбей сьлёзы, тым глыбейшае стаіць за імі шуканьне радасьці, што смутак можа гэты затым і ляжыць на дарозе жыцьця, каб сваёю цемяньню навучыць і сляпога бачыць і цаніць вялікія ясноты радасьці...

— Нешта іншае трэба тут, каб адбіць тое, што вось зрабілася з гэтым чалавекам,—несьвядома шавяльнулася ў пачуцьцях у Мітрафана, і ўжопакінуў глядзець ён на людзкія твары, на няжывога ў труне, а пачаў толькі слухаць.

„Музыка гэта тут для жывых, для самых сябе“, было далейшае адчуваньне, і ўжо была як-бы нейкая злосьць ад вось якой думкі:

„А ці стараліся даць музыку людзі гэтаму чалавеку пры жыцьці яго Можа ён на душы сваёй насіў нешта такое, што трэба было пабрацку расказаць усім, а ён маўчаў, хоць і ведаў, што ўсякі той, хто насьмяяўся-б над ім, сам у сабе гэтае самае носіць. Так можа й памёр ён „казённым“ для ўсіх, не сказаўшы нікому таго, што патрэбна было сказаць“.

І тут ужо прыпомнілася Мітрафану, што там дома ў хаце ляжыць хворы дзядзька. Як жыў ён здаровым гэты дзядзька, дык от жыў сабе— рабіў усё ў гаспадарцы, выпіваў часам для вясёласьці, ніколі ня быў жанатым, бо ня было дзе жонкі дзець, многа басякаваў ў маладыя гады, пад старасьць паспакайнеў, больш сядзеў дома ўжо ды нешта як-бы думаў, а можа гэта й нічога ня думаў, а так маўчаў, несьвядома прывыкшы да таго, што гаварылі з ім за ўсё жыцьцё толькі аб драбінах, аб дажджох, аб сякеры, якую нехта ўкраў, а ён не ўпільнаваў, аб сарочцы, якую ён раз быў скінуў з сябе й палажыў на лаву, і ад гэтага ня вельмі чыстаю стала лава...

„Што гэта цяпер адчувае дзядзька“, першы раз у жыцьці зьявілася ўпартая думка ў Мітрафана, і ўжо тады ўсё ва ўсёй істоце перамяшалася, а ў вушох стаяла музыка. Яна як-бы хацела нешта сказаць і не магла, не магла выявіць таго, што трэба было ў гэтую хвіліну, а выяўляла нешта іншае. От была яна сама сабою, і мусіць гэта, хто слухаў яе, усякі пасвойму яе адчуваў...

Пасьля, як ішоў ужо Мітрафан палявою дарогаю, быў у яго нейкі надзвычайны настрой, што мала калі з ім было. Тое, бачанае за горадам, пакінула пасьля сябе востры сьлед, і тут па гэтаму сьледу пашло ўсё тое, што было ўжо вакол яго па дарозе. Ясным рабіўся дзень— пачало выглядаць сонца, і тады прыпомнілася, што гэта-ж яшчэ зусім рана. Ціха ляжала поле, відзён быў ззаду горад, а тут блізка, пад нагамі, ляжала вільготная зямля. Ізноў прыпомніўся хворы дзядзька. Ізноў паўстала пытаньне: „Што гэта ён цяпер, аб чым думае? Можа гэта трэба пагаварыць з ім, пагаварыць іначай, ня так, як усё жыцьцё гаварылася“. І ўжо ідучы думаў толькі аб дзядзьку, з цьвёрдай упэўненасьцю, што трэба, прышоўшы дадому, пагаварыць з ім.

Дарога была няроўная—то паднімалася на ўзгорак, то зьбягала ў лог; а з узгоркаў відаць

было далёка зямлю, і нешта звала туды йсьці. Уяўлялася, што там вось горад з людзьмі, пройдзеш ты яго, пагаворыш з людзьмі і далей пойдзеш. А там вёскі з людзьмі. Адтуль далей, ізноў горад, людзі і ўсё зямля, зямля...

І слаўна было ісьці...

Дома Мітрафан тупаў цэлы дзень па хаце і жадаў сказаць што-небудзь хвораму дзядзьку, а той маўчаў, як-бы спаў, лежачы на няпрыбранай пасьцелі каля печы. Нястрыжаная шчаціна барады яго задралася ўгору, і дробны твар увесь быў у змаршчках. Меў ён на сабе адбітак прыдаўленага непакою, ды яшчэ быў колерам падобны да тае старое салдацкае, шэражоўтае вопраткі, якою быў накрыты.

— Дзядзька,—сказаў паціху Мітрафан,—я паеду па доктара.

І гэтыя словы яго празычэлі й заціхлі, бо ня жывуць зыкі доўга для вуха.

Але пасьля, як Мітрафан вышаў з хаты і прашло некалькі хвілін, пачалі гэтыя словы зноў зычэць у вушах Паўла і ўжо вызываць у мазгох аб сабе разуменьне: гэта было нейкім сказана. І пасьля пачаў высьвятляцца сэнс гэтага сказанага. Высьвятляцца паволі, нароўна і нейкімі ўдарамі. Адзін за адным разьвязваліся вузлы, што хавалі ў сабе тое яснае, чыс-

тае, што ў сьвядомасьці, якая плыве па роўных і чыстых хвалях думак...

І раптам нешта як-бы разарвалася ў істоце. Адышлі далёка берагі, што ціснулі некай чарай адчуваньні.

Выбухнуў агульны уздым, і Павал запытаў:

— Якое сягоньня надвор'е?

Ніхто не адказаў яму, бо ўсе спалі, хто быў у хаце. Толькі Мітрафанава жонка, пачуўшы скрозь дрымоту Паўлавы словы, няясна падумала:

— Гэта-ж ён з гарачкі, мусіць. Трудна яму, хутка памрэ...

Ад таго, што ніхто не адказаў Паўлу, пачаў думаць ён нейк аб усім. Плылі думкі бурна, навострывалі яны пачуцьці. І ўсё ляжаў ён ціха, ды глядзеў у вадно месяца.

— Гэта-ж я ачуньваю,—была ўжо ясная думка

## IV

Макей Пілат у той дзень устаў позна—ужо пачало разьвідняцца. Цэлую ноч ня спаў ён ад нэрвовасьці—усё думаў аб тым, што ён сьведка на судзе Андрэя з Зьмітром. Быў суд на тым тыдні, ды Зьмітрок не здаволіўся пастановаю суду і падаў вышэй, і цяпер зноў давядзецца гаварыць перад судом, як ён з сынам—

хлапчуком Міхалкам, ехаў з поля, от так каля поўдня. І як на дарожцы, працi Карасёвага поля, раптам убачыў ён, разам з Міхалкам, што Зьмітрок б'е Андрэя. І як ён тады хацеў ад'ехаць далей, каб далей быць ад гэтае справы, але Андрэй пачаў зваць яго на помач, ці то можа ў сьведкі,—хто яго ведае, штотады думаў Андрэй... А тады якраз хадзіла па позьнім аўсе, што быў пасеян Мікалаем Аднавокім на настаўніцкай зямлі „напалавіну", Юстынава кабыла, ды яшчэ была тады добрая пагода, і гусі, разам з варонамі, цягаліся па сьвежым жытнім іржышчы...

І тады судзьдзя будзе ўсё перабіваць ды ўсё патрабаваць, каб ён яму гаварыў аб тым, як, за што і чым Зьмітрок біў Андрэя, і што ён можа наагул сказаць аб гэтай справе, а не гаварыць аб сонцы, іржышчы, гусях ды воронах, ды настаўніцкім аўсе з Юстынаваю кабылаю.

А тут, як-жа ты будзеш гаварыць аб тым бяз гэтага? Гэта-ж яно нек і тое, і гэтае непадзельнае. От, бачыў усё гэта агулам, а тут выдзяляць даводзіцца. А што суду патрэбна і што непатрэбна? Хто яго ведае, што там ім трэба запісаць у гэтыя паперы, якіх на сталох цэлыя кучы...

То гэта тады было ў мястэчку, хоць блізка, а цяпер у горад давядзецца ехаць за сорак вёрст.

— От, ніяк не пазбыцца гэтай цеганіны,— сказаў Макей сам сабе моцна ўжо пад самы дзень, выпростваючы рукі з-пад кажушка, якім акрываўся.

І мацнеў усё тады ў яго, ні то што каб страх, а так нейкі непакой.

Перад самым досьвіткам усё гэта пачало ў галаве блытацца, скрозь дрымоты ўяўляліся прысады, па якіх ехаць у горад, вазы з нейкімі запыленымі паперамі, пакрыўджаны Зьмітром Андрэй і сярдзіты Зьмітрок. А тут якраз раптам пачалі за сьцяною, мусіць, у Кастусёвым агародзе на сухой яблыні ці можа ў хлявушку сьпяваць пеўні, і іх галасы ўваходзілі ў вушы і мазгі, як нешта цяжкае і вострае...

Такая дрымота была, як гэтыя галасы, а пасьля кароткі сон. А як разбудзіўся, ужо разьвіднялася: відны былі сьцены і праз вакно павасеньняму голая груша-дзічка, клён ды будынак Рамана-шаўца. У сенцах нешта стукнула— мусіць, гэта кот з гары скочыў.

Усё было звычайнае, прывычнае з малых дзён, і нейк тады спакайней яму зрабілася. Ён устаў, пацёр пальцамі кароткую шчаціну барады і пазяхнуў, моцна і доўга. І тады ўжо яму стала ясна, што гэта цяпер вось, зараз-жа трэ-

ба ісьці ў гумно, даць каню трохі сена, а пасьля
ператрасьці ў запас аўсянае саломы з сенам
і ачысьціць ток, каб днём зьвеяць намалочанае
за апошнія дні жыта.

І тады раптам несьвядома ўявілася, што гэта-ж
будзеш ісьці ў гумно вільготнаю ад васеньняга
досьвітку, маленькаю і густою травою
па прыгуменьні, закіданым сухімі лістамі з дрэваў,
ды трохі зацярушаным саломаю. А каля
гумна, цераз плот відно будзе туманнае поле—
зялёная жытняя рунь, а бліжэй—агароды з высечанаю
капустаю. Будзе ў гумне пахнуць саломаю,
сухою мятліцаю, што ў жытніх снапох,
і яшчэ нешта будзе там—ці то гэта ў зыках
якіх-небудзь, ці ў выглядзе ўсяго, ці ў гэтым
паху. Яно несьвядома роднае, яно ахапляла ўсё
жыцьцё, праходзіла праз яго; і ўсе радасьці
жыцьця, і ўсякі смутак яго былі з ім, ці то гэта
яно з імі. Яно вялікае, значнае, што заўсёды
адчуваецца ўсякім і ніколі нікім ня выказваецца
ў словах, і заўсёды зьвязана з чалавечымі
настроямі...

І тут неяк раптам адышоў некуды далёка
суд Андрэя з Зьмітром. Ні то прапаў, ні то
прытаіўся непакой, што быў усю ноч, і захацелася
гаварыць з кім-небудзь аб усім, аб чым
ён сам захоча.

Ужо зусім зыходзіла ноч, як Макей шукаў па куткох хаты шапку. Спаў пад вакном на лаве Міхалка—худы і шчуплы чатырнаццацігадовы хлапчына. Дачка Ганна даўно ўжо ўстала і хадзіла нечага перад вокнамі на дварэ.

І ўжо тады, як усё гэта, прашоўшы праз пачуцьці, увашло ў думкі, заставіла яно Макея ціха выйсьці з хаты, каб не пабудзіць Міхалку.

„От, няхай пасьпіць, калі не прачнуўся" думаў Макей, зачыняючы паволі дзьверы, колькі яго ёсьць, гэтага хлапчаняці, і так небарак з малых дзён на работу пашоў".

Было ні то шкода дзяцей, ні то некую віну сваю перад імі адчуў, ні то гэта любасьць раптам бацькаўская да іх зьявілася.

Праходзячы па дварэ ў гумно, ён бачыў, як Ганна цягнула цяжкі мяшок з капустаю, месячы босымі нагамі халодную гразь.

— Дай я табе паднясу,—сказаў Макей.

Ганна нічога не адказала, бо было ёй цяжка гаварыць, валакучы мяшок. А ён падумаў, што гэта яна з ім, так, як і заўсёды, мала стараецца гаварыць не за тое, што ніколі ня меў ён да яе і Міхалкі, патрэбнае вельмі-ж у жыцьці, шчырасьці, а, як яму здавалася, проста затым што неласкавая яна, нядобрая дзяўчына.

